


ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 8-9 (190-191) | Нядзеля 28 лютага 1954 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 8

# Сытуацыя выясьнілася

**БЭРЛІНСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ЗАМАЦАВАЛА ПАДЗЕЛ СЬВЕТУ**

### КАНФЭРЭНЦЫЯ СКОНЧЫЛАСЯ — ПРАБЛЕМЫ АСТАЛІСЯ

Канфэрэнцыя чатырох міністраў замежных справаў ЗШ, Вялікабрытаніі, Францыі й Савецкага Саюзу ў Бэрліне, пасьля 23 дзён нарадаў і 27 паседжаньняў, закончылася ў чацьвер 18 лютага сёлета. На працягу гэтых звыш трох тыдняў на Бэрлін былі зьвернутыя вочы ўсяго сьвету, так як канфэрэнцыя гэтая была ад 1949 году першай непасрэднай нарадай з Савецкім Саюзам над найважнейшымі праблемамі, якія знаходзіліся дагэтуль ў цэнтры сусьветнай палітыкі: справа Нямеччыны, справа сусьветнай бясьпечнасьці ўключна з азіяцкімі праблемамі і справа Аўстрыі.

Палітычныя колы Захаду й заходняя прэса, хаця й былі прыгатаваныя на тое, што канфэрэнцыя з Саветамі ў Бэрліне ня прынясе разьвязкі хвалюючых увесь сьвет праблемаў, усё-ж такі цешылі сябе ілюзіямі, што прынамсі ў некаторых драбнейшых пытаньнях дасьць пазытыўныя вынікі і гэтым паложыць пачатак для дальшых намаганьняў у кірунку мірнага разьвязаньня і іншых праблемаў. Мы, аднак, такіх ілюзіяў ня мелі. Нашыя прыпушчэньні, высказваныя на балонках «Бацькаўшчыны» падчас канфэрэнцыі, як і перад ёй, поўнасьцю спраўдзіліся. Мы цьвердзілі настойліва, што да ніякага паразуменьня прыйсьці ня можа, бо Масква сабе гэтага не жадае. Мы падчыркваілі таксама, што Крэмль ня можа апынуцца пад дастатковай прэсіяй з боку Захаду, прэсіяй, якая прымусіла-б яго пайсьці на некаторыя ўступкі і кампрамісы, бо ведае вельмі добра, што Захад нічым загрозіць Савецкаму Саюзу ня можа. Апошні зьяўляецца пэўным, што Захад супраць яго вайной ня пойдзе, а над ім самым вісіць рэальная загроза савецкай агрэсіі. Таму якое-небудзь пагадненьне між Захадам і Саветамі абазначала-б, што апошнія аслабляюць свае агрэсіўныя намеры. А гэта не ляжыць у імпэрыялістычных плянах Крэмля. Вынік Бэрлінскай канфэрэнцыі, вакол якой рабілася гэтак многа шуму і зь якой мноства наіўных зьвязвала свае надзеі, ніякі. **Сама канфэрэнцыя скончылася, а ўсе праблемы асталіся.**

Аднак канфэрэнцыя паказала нешта такое, чаго мы раней не спадзяваліся й не прадбачылі. Мы ўважалі, што Молатаў, як і заўсёды перад гэтым, будзе прынамсі іграць тэатральную ролю, будзе маніфэставаць свае добрыя намеры, будзе, як звычайна гэта робяць Саветы, дзеля прапагандных мэтаў даваць да зразуменьня, што ў некаторых менш важных справах ён ідзе на ўступкі, каб іншымі сваймі праектамі зьвесьці гэтыя ўступкі на нішто. Тымчасам на Бэрлінскай канфэрэнцыі Молатаў не ўважаў за патрэбнае весьці такой прапагандпай ігры. Ён палажыў на стол усе свае карты і выразна даў да зразуменьня, чаго хоча Крэмль.

### «ДАЕШЬ ЕВРОПУ!»

Плян Молатава ў справе Нямеччыны, аб чым пісалася ў папярэднім нумары, зводзіўся да таго, што ўся Заходняя Нямеччына мусіла-б стацца сатэлітам Масквы, а зялезная заслона была-б перасунутая з над Эльбы над Рэйн. Ясна, такі праект для заходніх дзяржаваў паза ўсякай дыскусіяй няпрыемлівы, і яны яго станоўча адкінулі. Але ў наступных днях канфэрэнцыі аказалася, што гэта быў толькі мінімальны плян Молатава, толькі часткай таго, чаго жадае й да чаго імкнецца Масква. Калі канфэрэнцыя, не дасягнуўшы ніякай згоды ў нямецкім пытаньні, вярнулася да першага пункту парадку дня — сусьветнай бясьпечнасьці, Молатаў зь няскрываным цынізмам і нахабствам выступіў з савецкім плянам эўрапэйскай бясьпечнасьці, які адкрыў максімальныя дамаганьні Масквы.

Молатаў запрапанаваў заключэньне на 50 гадоў г. зв. «Эўрапэйскага генэральнага дагавору калектыўнай бясьпечнасьці» і ў сувязі зь ім плян трох пунктаў для нэўтралізацыі Нямеччыны. Паводля гэтага праекту, павінен быць разьвязаны Атлянтычны пакт і закінуты праект эўрапэйскай арміі, на месцы якіх усе эўрапэйскія кантынэнтальныя дзяржавы ўключна з Савецкім Саюзам, эўрапэйскімі рэспублікамі Савецкага Саюзу й дзяржавамі-сатэлітамі павінны заключыць між сабой успомнены «Эўрапэйскі генэральны дагавор калектыўнай бясьпечнасьці». Згодна гэтага дагавору, падпісаўшыя яго дзяржавы забавязваліся-б усе спрэчныя пытаньні разьвязаць мірным спосабам, а эвэнтуальны збройны напад на адну з гэтых дзяржаваў разглядаўся-б, як напад на ўсіх партнэраў «Эўрапэйскага генэральнага дагавору». Што-ж датычыцца Нямеччыны, дык да часу ейнага задзіночаньня да гэтага дагавору прыступіла-б Ўсходняя Нямеччына і асобна Заходняя Нямеччына, як два раўнапраўныя партнэры.

**Задзіночаныя Штаты Амэрыкі да «Эўрапэйскага генэральнага дагавору» ня былі-б дапушчаныя.** Затое ЗША і камуністычны Кітай мелі-б права трымаць пры гэтым эўрапэйскім пакце сваіх абсэрватараў.

Пераносячы на простую мову, плян Молатава абазначае, што замест Атлянтычнага пакту і эўрапэйскай абароннай супольнасьці, якія маюць на мэце выключна абарону перад савецкай агрэсіяй, бо іншага агрэсара ў Эўропе няма, пры гэтым абарону пад кіраўніцтвам Амэрыкі, як найсільнейшай і вядучай дзяржавы вольнага сьвету, меў-бы паўстаць «Эўрапэйскі пакт бясьпечнасьці» пад кіраўніцтвам якраз агрэсара — Савецкага Саюзу, а бяз удзелу Амэрыкі. Дык калі савецкі праект у справе Нямеччыны меў на мэце перасуненьне зялезнай заслоны з над Эльбы над Рэйн (плян мінімальны), дык праект Молатава эўрапэйскай калектыўнай бясьпечнасьці абазначае, што гэтая зялезная заслона была-б перасунутая аж да ўзьбярэжжа Атлянтычнага акіяну (плян максімальны).

Гэтаму пляну Масквы меў-бы таксама служыць запрапанаваны адначасна зь ім і ў сувязі зь ім нямецкі плян трох пунктаў Молатава. Гэты плян прадбачыць нэўтралізацыю Нямеччыны яшчэ перад ейным задзіночаньнем і падпісаньнем зь ёй мірнага дагавору і вывад зь Нямеччыны акупацыйных збройных сілаў як савецкіх, гэтак і трох заходніх дзяржаваў на працягу шасьці месяцаў.

Больш яснага і больш цынічнага сфармуляваньня, чаго ўзапраўды хоча Масква, нельга хіба было-б і прыдумаць. У сувязі з гэтым нямецкая газэта «Зюддойчэ Цайтунг» 20-21 лютага пісала: «Задзіночаная Нямеччына із забаронай заключаць якія-небудзь саюзы без раней праведзеных свабодных выбараў і ачышчаная «чужымі» для яе Амэрыканцамі й Ангельцамі Эўропа пад савецкім патранатам — гэта нешта на столькі недарэчнае, каб можна было прыняць сур'ёзна. Гэткія пляны можна «прапанаваць» толькі пад настаўленым пісталетам собскім сатэлітам, а ня роўным партнэрам перагавораў».

### МІР, ЯКІ ЗАХОЎВАЕ СТАН ВАЙНЫ

Ня менш парадаксальную пазыцыю заняў Молатаў і ў справе Аўстрыі.

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Да справы вызваленьня

30 студзеня сёлета адбылося ў Вашынгтоне наступнае паседжаньне ў справе свабоды й міру цераз вызваленьне, скліканае кангрэсмэнам Армстронгам, старшынёю Цэнтральнага Камітэту Канфэрэнцыі, што пад вышменаваным лёзунгам адбылася ў Вашынгтоне ў канцы мінулага году. Мэтай цяперашняга паседжаньня было прадыскутаваньне рэзалюцыі апошняй канфэрэнцыі й разьдзел функцыяў у розных камітэтах.

Кангрэсмэн Армстронг паінфармаваў аб далейшых плянах вызвольнай акцыі. Ён падаў да ведама, што кангрэсмэны Кэрстэн і Фэен і сэнатар Мунд памясьцілі ў кангрэсавым рэкордзе (справаздачы) рэзалюцыю й тэксты важнейшых прамоваў на апошняй канфэрэнцыі. На паседжаньні было пастаноўлена прадаўжаць ідэю вызваленьня ў поўнай шырыні. Дзеля сканкрэтызаваньня далейшай акцыі было пастаноўлена апрацаваць дэклярацыю незалежнасьці для ўсіх паняволеных камунізмам народаў паводля прынцыпаў амэрыканскай дэклярацыі незалежнасьці, якая адказвала-б імкненьням усіх народаў. З гэтаю мэтаю й быў утвораны Камітэт Дэклярацыі Незалежнасьці, на старшыню якога быў запрошаны кангрэсмэн Фэен, а ў склад сяброў кангрэсмэн Кэрстэн, др. Лёўры, сп. Мэк Давэл, сп. О'Конор, сп-ня Гант і др. Дабранскі.

Таксама былі ўтвораныя іншыя камітэты: а) Агульны Камітэт Праграмаў і праектаў на чале із сп. Эміт, б) Дарадчы Камітэт з адміралам Мэнцам на чале, в) Камітэт для сьвяткаваньня дня паўстаньня за зялезнай заслонай на чале із сп. Гэнсанам і некаторыя іншыя камітэты. Усе гэтыя камітэты будуць задзіночваць прадстаўнікоў паняволеных народаў і амэрыканскіх палітыкаў, прыхільнікаў паняволеных народаў, у тым ліку й народу беларускага.

У нарадзе прынялі ўдзел кіруючыя прадстаўнікі паняволеных народаў, як і многія амэрыканскія палітыкі. Ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў нарадах прыймала ўдзел і выступала ў дыскусіях сп. В. Жызьнеўская, а таксама было некалькі Беларусаў з Саўт Рывэр.

Да ўсяго гэтага можна было-б дадаць, што ёсьць надзея, што гэтая арганізацыя зможа стацца другімі Задзіночанымі Нацыямі антыбальшавіцкіх народаў і палажыць моцны фундамант для вызваленьня народаў, паняволеных расейскім камунізмам. Жаль толькі, што нашыя беларускія палітыкі ў Амэрыцы мала рупяцца аб удзеле ў працы гэтае важнае арганізацыі. А быў-бы ўжо час узяцца да справы і не дапусьціць, каб засеенае намі поле зжыналі нашыя ворагі.

# Супраць вызнаваньня сатэлітаў

Амэрыканскі сэнатар з партыі дэмакратычнай із штату Ілінойс Дуглас злажыў 16 лютага ў сэнаце праект рэзалюцыі, якая дамагаецца спыненьня вызнаваньня ўрадаў сатэлітных дзяржаваў і распачацьця акцыі з мэтай прыняцьця Задзіночанымі Нацыямі дактрыны нявызнаваньня падбояў, у сувязі з чым сатэлітныя краіны мусілі-б быць выкінутыя з ЗН.

У сваей рэзалюцыі сэнатар Дугляс прыпамінае, што Задзіночаныя Штаты ня вызналі захопу Саветамі Летувы, Латвіі й Эстоніі. У сувязі з гэтым ён дамагаецца, каб кангрэс пацьвердзіў гэтую дактрыну нявызнаваньн падбояў вольных народаў шляхам спыненьня дыпляматычнага вызнаваньня камуністычных урадаў Польшчы, Румыніі, Баўгарыі, Мадзярщыны й Чэхаславаччыны. Рэзалюцыя падчырквае, што прадбачаныя ў Ялце перадумовы вызнаньня ўрадаў краінаў Усходняй Эўропы былі савецкім урадам ня выкананыя, які замяніў «вольныя ўрады Расейцамі або мар'янэткамі, падпёртымі расейскім аружжам і тайнай паліцыяй.

Адначасна сэнатар Дугляс ськіраваў ліст да прэзыдэнта Айзэнгаўэра з заклікам, каб даваў права азылю й працы дыпляматам і вайскавіком камуністычных краінаў, якія перайшлі-б на Захад. Ён дамагаецца, каб прэзыдэнт зьвярнуўся праз радыё да ўсіх за зялезнай заслонай, каб уцякалі на Захад, якія яшчэ хістаюцца.

# Выданьне, якога у нас яшчэ ня было

**У папярэдніх нумарох «Бацькаўшчыны» мы паведамілі, што друкуецца й хутка выйдзе ў сьвет вялікі рэпрэзэнтацыйны том выбраных твораў нашага найвялікшага паэты й нацыянальнага прарока Янкі Купалы п. н. «СПАДЧЫНА» і падалі, як гэтая кніга будзе выглядаць, што прыблізна зьмяшчаць ды як будзе ўпарадкаваны сам ейны зьмест. Мы падчыркнулі, што з кажнага гледзішча гэта будзе першае такое саліднае, багатае й прыгожае выданьне Купалаўскіх твораў, якога мы ня мелі яшчэ нават на Бацькаўшчыне.**

**Як укладальнікі зборніка, гэтак і ягоныя рэдактары ды выдаўцы кіраваліся пры гэтым выключна патрыятычнымі матывамі: паказаць сьвету запраўднага Купалу, паказаць такім, якім дагэтуль ён ня быў яму ведамы, а так-жа даць нашым суродзічам, адарваным ад роднай Бацькаўшчыны й раськінутым па цэлым сьвеце, тую духовую страву, якая ўзмоцніць іх на духу й дапаможа перетрываць цяжкія гады выгнаньня. Кіруючыся тады гэтымі чыста патрыятычнымі матывамі й бязінтэрэсоўна ўкладаючы ў гэтае выданьне шмат цяжкай працы й матар'яльнай ахвярнасьці, мы верылі, што і ўсе беларускія арганізацыі на чужыне і ўсё грамадзянства, належна ацаніўшы гэтую справу, прыйдзе нам з належнаю помаччу. Помач гэтая будзе заключацца ў пашырэньні кнігі, ейным рэклямаваньні й зьбіраньні перадплатнікаў наперад. Такое вялікае й багатае выданьне, адказваючае ўсім вымаганьням заходняй друкарскай і выдавецкай тэхнікі, якім ёсьць Купалаўскі зборнік, будзе каштаваць вялізарныя, як на нашыя ўмовы й магчымасьці, грошы. Грошаў гэтых Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ня мела. Але Друкарня, ведаючы аб дасюлешняй сумленнасьці Выдавецтва «Бацькаўшчыны» і пераканаўшыся, што выдадзеныя дагэтуль ім кніжкі добра разыходзяцца, згадзілася надрукаваць том Купалавых твораў на раты. Але гэтаксама на раты можна будзе й атрымліваць з Друкарні надрукаваны зборнік. Было-б тады вельмі прыкрым, калі-б гэтак патрэбная кніжка і з такім вялікім укладам працы выдадзеная, у вялікай часьці сваіх эгзэмпляраў доўгі час валялася ў Друкарні замест таго, каб апынуцца ў руках даслоўна кажнага нашага эмігранта.**

**Вось чаму зьяўляецца вельмі важным, каб усе нашыя арганізацыі на эміграцыі, усе нашыя кальпартэры дагэтуль выдадзеных кніжак Выдавецтвам «Бацькаўшчыны», як і наагул усе тыя, што хацелі-б памагчы гэтай важнай справе, ужо цяпер пачалі зьбіраць перадплату на Купалаўскі зборнік яшчэ перад ягоным выхадам. Цана кнігі наступная:**

**1. На добрай друкарскай паперы — 9 даляраў ЗША за адзін эгзэмпляр, а ў іншых краінах іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**2. На люксусовай бліскучай паперы — 10 даляраў ЗША, а ў іншых краінах раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Трэба ведаць, што ў параўнаньні з выдавецкімі коштамі кнігі, як і ейней вартасьцю ды ўложанай у яе зусім дармовай працай укладальнікаў, рэдактароў і выдаўцоў, гэтая цана зьяўляецца вельмі н і з к а я. Яна аблічана так, каб хаця пакрыць кошты самога выданьня, а не каб мець з гэтага прыбытак. Пры гэтым Выдавецтва мае на мэце й тое, што пасьля зьвярненьня коштаў выданьня Купалавага зборніка, яно такім-жа самым спосабам зможа прыступіць і да выданьня іншых манумэнтальных твораў нашай літаратуры і навуковых працаў аб Беларусі.**

**Нам ведама, прыкладам, што некаторыя нашыя суродзічы ў Амэрыцы купляюць на сплату багата выдадзеную Біблію і плацаць за яе аж 45 даляраў. Дык на колькі-ж таней абыйдзецца тады вялікі зборнік твораў Купалы, пры гэтым твораў нашых, найбольш нам дарагіх! Зборнік Купалы можна таксама купляць на раты, але ў тым толькі выпадку, калі паручыцца за гэта тая беларуская арганізацыя, якая зборнік гэты будзе прадаваць. Атрыманыя згары грошы ў форме перадплаты наперад за зборнік Купалы, як і пазьней пры ягонай прадажы, трэба а б а в я з к а в а ўносіць на асобнае конто і асобна іх перасылаць нашаму фінансаваму прадстаўніку ў Бэльгіі на адрас: Janka Žučka, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique, не мяшаючы іх з грашыма за прададзеныя іншыя кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Справа ў тым, што зборнік Купалы выдаецца на зусім іншыя фонды й таму мусіць быць за яго праводжаны асобны разьлік незалежна ад іншых кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Трэба памятаваць яшчэ адно: калі ў ліпені-жнівені 1953 г. праводзілася зборка складак на Фонд Беларускае Кніжкі, дык было сказана, што кажны можа ў разьмерах сваей складкі атрымаць паводля собскага выбару кнігі, выдадзеныя Выдавецтвам «Бацькаўшчыны». Вось-жа гэта не адносіцца да Купалавага зборніка.**

**Мы верым, што ўсе нашыя арганізацыі на чужыне й многія нашыя суродзічы належна ацэняць вялікую нацыянальную вартасьць Купалаўскага зборніка й безадкладна прыступяць да ягонага пашырэньня: рэклямаваньня, зьбіраньня перадплаты наперад і, пасьля выхаду зборніка, што наступіць ужо ў сакавіку сёлета, яго прадаваньня. Нашым супольным заданьнем павінна быць, каб гэты Купалаўскі зборнік стаўся настольнай кнігай кажнага Беларуса на чужыне ня гледзячы на ягоныя палітычныя перакананьні. Калі-ж ён узапраўды будзе належна пашыраны, дык і сваю вялізарную ролю — духовага зблізжэньня з часова страчанай Бацькаўшчынай — выканае напэўна. Дык прыступім-жа да як найбольшага пашырэньня гэтага нацыянальнага евангельля Беларускага Народу, якім зьяўляюцца творы Купалы, і ў гэтай акцыі паставім сабе за лёзунг: К а ж н а м у  Б е л а р у с у — з б о р н і к  К у п а л а в ы х  т в о р а ў.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

### ЦЭННЫЯ ПРЭМІІ ГАДАВЫМ ПАДПІШЧЫКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Усе падпішчыкі «Бацькаўшчыны», якія прышлюць на яе падпіску за цэлы год згары, могуць атрымаць прэмію ў форме беларускіх кніжак паводля свайго выбару на суму 2,5 даляраў, выдадзеных Выдавецтвам «Бацькаўшчыны».**

**Старайцеся скарыстаць з такой рэдкай нагоды і мець задарма пару добрых беларускіх кніжак.**

# Занядбоўваем справы найважнейшыя

Кажная эміграцыя, калі яна толькі будзе асуджаная на даўжэйшае прабываньне ў чужым асяродзьдзі паза родным краем, раней ці пазьней, у залежнасьці ад аб'ектыўных абставінаў, падпадае пад дзеяньне працэсу асыміляцыі. Як звычайна, асыміляцыя гэтая будзе спачатку псыхалягічная, культурная, а пазьней — і нацыянальная, а разам зь ёй і моўная. Звычайна ўважаецца, што найбольш адпорная на асыміляцыю зьяўляецца эміграцыя палітычная, якая, дабравольна ці прымусова, выйшла на чужыну, каб там свабодна разьвіваць і прадаўжаць тыя ідэі, якія зьяўляюцца забароненыя й перасьледваныя на бацькаўшчыне. Яна, хаця зьяўляецца фізычна адарванай ад роднага краю, але ўвесь час для яго працуе й тым самым не парывае зь ім духовай лучнасьці. Інакш быццам справа прадстаўляецца з эміграцыяй зарабковай, што выйшла на чужыну, каб знайсьці лепшы заработак і лепшыя ўмовы жыцьця. Такая эміграцыя — звычайна цьвердзіцца — хутчэй праходзіць працэс асыміляцыі, бо для яе чужына, асабліва калі добра ў ёй паводзіцца матарыяльна, хутка становіцца ўзапраўды новай бацькаўшчынай. Да гэтай катэгорыі эміграцыі трэба залічыць і тых выхаджэнцаў зь сялянства ці работніцтва, якія, разам зь інтэлігенцыяй, апынуліся на чужыне, каб ратавацца ад бальшавіцкага перасьледваньня. Яны выэміграваў з краю таксама з прычынаў чыста палітычных, але, з гледзішча на сваю інтэлектуальную ўзроўню й ранейшую нацыянальную пасыўнасьць, ня могуць на чужыне весьці нацыянальна-палітычнай дзейнасьці і таму, у сілу абставінаў, перастаюць быць эміграцыяй палітычнай ды становяцца тэй-жа самай эміграцыяй зарабковай.

Нельга згадзіцца з думкай, што эміграцыйная інтэлігенцыя, якая прэтэндуе быць палітычнай эміграцыяй у сэнсе прадаўжаньня ёю палітычнай дзейнасьці на чужыне, зьяўляецца менш наражаная на загрозу асыміляцыі, чымся людзі «простыя», ці г. зв. масы. Хаця інтэлігенцыя мае ўсе дадзеныя сьведама бараніцца перад працэсам асыміляцыі, але, ведаючы або хутчэй апаноўваючы мову краіны свайго пасяленьня ды маючы непасрэдны доступ да ейнае культуры, хутчэй заклімагызоўваецца ў гэтым чужым асяродзьдзі. Затое людзі з народных масаў гэтых дадзеных ня маюць: яны жывуць сваей народнай стыхіяй і зьяўляюцца псыхалягічна зусім ізаляванымі ад чужынцаў.

Таксама нельга згадзіцца з тым, што старэйшае пакаленьне эміграцыі зьяўляецца поўнасьцю забясьпечанае ад асыміляцыі. Жыцьцё, паказвае, што гэтак ня ёсьць, людзі, якія памятаюць бацькаўшчыну й жылі ейным жыцьцём, адчуваюць і надалей духовыя зь ёй сувязі. Але, у залежнасьці таксама ад абставінаў, гэтыя сувязі хутка слабеюць, калі гэтаму ня супрацьдзеіць. Многія тыя людзі з нашае інтэлігенцыі, якія яшчэ нядаўна былі нацыянальна актыўныя, зь бегам гадоў становяцца што раз болей пасыўнымі. Ад нацыянальнай пасыўнасьці адзін толькі крок да нацыянальнай абыякавасьці. А нацыянальная абыякавасьць гэта ўжо першая стадыя асыміляцыі. Вельмі малое або й ніякага ня мае значэньня й тое, што гэтыя людзі прыватна, у сваёй сям'і яшчэ паслугоўваюцца беларускай мовай. Мы ведаем, што шмат Амэрыканцаў польскага паходжаньня ведаюць яшчэ польскую мову й ёй паслугоўваюцца ў прыватным жыцьці. Але Палякамі людзі гэтыя сябе не адчуваюць.

Найгорш аднак стаіць справа з нашым новым пакаленьнем. Нашыя дзеці ня выхоўваюцца сыстэматычна ў беларускіх нацыянальных традыцыях, а калі што й робіцца ў гэтым кірунку, дык толькі прыпадкова, пры гэтым робіцца зусім прыватна, больш нацыянальна моцнымі й руплівымі бацькамі, а ня беларускімі арганізацыямі. У большых беларускіх асяродзьдзях ня толькі няма арганізаванага груповага навучаньня беларускае мовы, але й бацькі інтэлігенты толькі ў рэдкіх выпадках вучаць сваіх дзяцей дома хоць-бы чытаць і пісаць пабеларуску. Прыватная мова гэтых дзяцей, хаця й надалей ёсьць беларуская, але ў такой ступені яна засьмечаная чужымі словамі й зваротамі, што ўжо фактычна зьяўляецца толькі жаргонам беларускае мовы. Гэтыя дзеці й псыхічна паволі ўжо робяцца чужынцамі.

Будучы заабсэрбаванымі нашымі штодзённымі жыцьцёвымі клапотамі або праблемамі вялікай палітыкі, мы часта не здаём сабе справы з таго, якая вялікая нацыянальная небясьпека пагражае нашым дзецям, нашаму новаму пакаленьню, далейшым прадаўжальнікам палітычнай эміграцыі. Сяньняшні стан на столькі зьяўляецца ўжо грозным, што з сучасным эміграцыйным пакаленьнем, якое ўзгадавалася яшчэ на бацькаўшчыне, можа скончыцца й беларуская палітычная эміграцыя наагул у выпадку, калі ня зьменіцца палітычная сытуацыя і мы ня вернемся на бацькаўшчыну.

Праўда, мы ўсе падлягаем суровым законам жыцьця. Але ўсюды й заўсёды маем магчымасьць разьвіваць сярод нас тыя якасьці, што для нас зьяўляюцца карыснымі, і бараніцца перад уплывамі, якія для нас ёсьць шкоднымі. Нацыянальнае ўзгадаваньне як сярод старэйшага грамадзянства, гэтак і сярод дзяцей і моладзі, можна весьці пасьпяхова і ў эміграцыйных умовах жыцьця. Можам узяць прыклад з эміграцыяў некаторых іншых народаў. Гэтак, прыкладам, Латышы ў Нямеччыне ў кажным лягеры для безьдзяржаўных чужынцаў завялі па некалькі дзён у тыдні арганізаванае навучаньне сваіх дзяцей латыскае мовы. Дзеці гэтыя, прыйшоўшы з заняткаў у нямецкай школе, зьбіраюцца на адну гадзіну, дзе свой-жа настаўнік зусім бясплатна вучыць іх чытаць і пісаць палатыску, расказвае ім аб Латвіі, аб ейнай гісторыі і геаграфіі. У іншых-жа краінах эміграцыі некаторых народаў утрымліваюць свае запраўдныя прыватныя школы, у якіх дзеці іхныя, што нармальна наведваюць чужую школу, вучацца ўсяго патрэбнага аб сваей бацькаўшчыне. На колькі нам ведама, гэткага прыватнага навучаньня ў нас няма нідзе. Із гадавых справаздачаў нашых грамадзкіх арганізацыяў, якія прыходзіцца часта чытаць на балонах прэсы, мы ніразу ня чулі, каб у гэтых справаздачах ці плянах працы на будучыню знаходзіўся пункт аб навучаньні асноваў беларусаведы нашых дзяцей ці наагул аб нейкай нацыянальна-ўзгадавальнай сыстэматычнай дзейнасьці.

Мы спэцыяльна закранулі гэтую тэму, каб прыпомніць нашаму грамадзянству, што ў працэсе нашай нацыянальнай дзейнасьці на чужыне справа нацыянальнага выхаваньня ў нас зьяўляецца зусім занядбанай. Мы вельмі мала зьвяртаем увагі на тое, каб супрацьдзеіць нацыянальнай асыміляцыі нашага старэйшага пакаленьня, а бадай што зусім нічога ня робім для нашага маладога пакаленьня. Трэба ведаць, што ў гэтым кірунку можна рабіць і зрабіць шмат навет пры нашых вельмі сьціплых магчымасьцях. Бяда толькі, што нашае грамадзянства належна не дацэньвае такой працы, магчыма таму, што праца такая не дае такога выразнага й крыклівага навонкі эфекту, як, прыкладам, праца палітычная.

Для ўзмацненьня нашага нацыянальнага патэнцыялу на чужыне можа найбольш прычыніцца роднае друкаванае слова: прэса й кніжка. Іхная роля ў нашым нацыянальным усьведамленьні і адраджэньні на бацькаўшчыне была калісьці першарадная, а ў некаторых выпадках і выключная. Роля беларускай кніжкі, часапісу й газэты ў захаваньні нашай нацыянальнай самасьведамасьці на чужыне ня толькі ня меншая, але й значна большая. У ўмовах эміграцыйнай расьцярушанасьці роднае друкаванае слова часта становіцца адзіным лучнікам між намі ўсімі, між паасобнымі нашымі суродзічамі й цэнтрамі нашага нацыянальнага жыцьця на чужыне. Калі «Бацькаўшчына», ня гледзячы на свае сьціплыя магчымасьці, зарганізавала проста саматугам такое-ж сьціплае, але адначасна й першае такое на эміграцыі, выдавецтва беларускіх кніжак, дык было гэта ня прыпадкова. Рэдакцыя кіравалася сьведамасьцю, што існуе вялізарная патрэба даць нашым суродзічам на чужыне прыступную ім беларускую кніжку, уважаючы яе за наймагутнейшую зброю ў захаваньні й разбуджэньні нашага нацыянальнага самапачуцьця. Каб даць і нашым дзецям датарнаваную да іхнага веку лектуру, «Бацькаўшчына» ўжо трэйці год выдае месячны часапіс для дзяцей «Каласкі» і мае ў пляне выдаваць асобныя дзіцячыя кніжкі.

Але мала адно толькі выдаваць. У ўмовах расьцярушанасьці ня меншай праблемай зьяўляецца таксама й пашыраньне выданых кніжак, часапісаў і газэтаў. Бязь пераўвялічэньня можна сказаць, што той Беларус, які шчыра аддаецца ціхай і сьціплай працы пашыраньня беларускага друкаванага слова, робіць шмат большую нацыянальную работу, чымся ўсе тыя палітычныя крыкуны, галоўным заданьнем якіх зьяўляецца пры нагодзе розных сходаў ці зьездаў заблішчэць у ролі непахіснага рымскага Катона, і чымся ўсе тыя пустыя балбатуны, якія намагаюцца вучыць іншых, што і як трэба рабіць, а самі ня робяць абсалютна нічога. Тымчасам трэба адцеміць з сумам, што нашыя агульнаграмадзкія й іншыя арганізацыі, ганяючыся за пустымі вонкавамі эфэктамі, вельмі мала ўдзяляюць увагі ахапленьню нацыянальнай дзейнасьцю як найшырэйшага кола нашых суродзічаў, пашыраньню сярод іх беларускага друкаванага слова, а пра арганізаваньне навучаньня асноваў беларусаведы нашых дзяцей і моладзі бадай што ніхто яшчэ не падумаў. Пашыраньне друкаванага слова гэта ня толькі чыста камэрцыйная справа рэдакцыяў і выдавецтваў, але ў першую чаргу, як ужо ўспаміналася, справа вялікай нацыянальнай важнасьці. А тымчасам гэтай справай у нас дагэтуль займаліся толькі паасобныя адзінкі, тыя-ж сьціплыя й незаўважаныя, але карысныя працаўнікі, затое не займалася гэтым бадай што ніводная беларуская арганізацыя.

Сьцьвярджаем гэты сумны факт ня дзеля дакору, але па тое, каб памагчы нацыянальным сілам нашае эміграцыі зразумець, што кіраваная імі нацыянальная беларуская праца на чужыне мае вялікія й проста недаравальныя прабелы і што прабелы гэтыя трэба запоўніць. Для гэтага існуюць усе магчымасьці, трэба толькі хацець і ўмець іх выкарыстаць.

**Ст. Крушыніч**

# Паказальная зьява

**ДА 35-АЙ ГАДАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

1-га студзеня сёлета мінула 35 гадоў ад стварэньня г. зв. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — БССР, абвешчанай у Смаленску 1 студзеня 1919 году.

Раней у Савецкай Беларусі прыдавалася гэтай гадавіне вялікае значэньне, вакол яе рабілася шмат прапагандовага шуму. Выдатнейшыя паэты прысьвячалі ёй свае творы, ладзіліся ўрачыстыя акадэміі й мітынгі, у чэсьць яе пераймяноўваліся заводы й калгасы, а прэса ў гэты дзень была перапоўненая матар'яламі, прысьвечанымі гэтай гадавіне. Ды яно й зразумела. Бо якая-ж гадавіна можа быць найважнейшая й найбольш урачыста адзначаная ў дзяржаве, як не гадавіна ейнага паўстаньня? Дык 5-ая, 10-ая, 15-ая і наступныя гадавіны заснаваньня БССР адзначаліся вельмі ўрачыста. І хаця гэтыя ўрачыстасьці выкарыстоўваліся, як і ўсё ў Саветах, для прапаганды камунізму й палітыкі партыі, праводжанай у дадзеным пэрыядзе, ўсё-ж такі яны дадчырквалі таксама важнасьць і значэньне існаваньня беларускай савецкай дзяржаўнасьці.

Зусім іначай у бягучым годзе. Дзень 35-ай гадавіны БССР нічым ня розьніўся і ад астальных 364 дзён у годзе. Перад намі першы нумар «Зьвязды» за 1-га студзеня 1954 году — воргану Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Беларусі, Вярхоўнага Савету Міністраў БССР, значыцца, цэнтральнага воргану найвышэйшых партыйных і дзяржаўных уладаў Беларусі. На першай балоне, дзе звычайна зьмяшчаюцца матарыялы аб найважнейшых падзеях у жыцьці Савецкага Саюзу і Беларусі ў прыватнасьці, аб 35-ай гадавіне БССР не знаходзім ані слова. У самым версе балоны зьмешчаная навагодняя прамова старшыні прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР Варашылава, побач зь ёй — фотарэпрадукцыя крэмлёўскай вежы, з пылаючай чырвонай зоркай на ёй, унізе зьлева — навагодні артыкул »Год 1954», а з права, пад фотаздымкам Крэмля, артыкул «Масква навагодняя», прасякнуты расейскім патрыятызмам.

І толькі на 2-ай балоне знаходзім артыкул старшыні прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР В. Казлова «У сям'і савецкіх народаў», прысьвечаны гэтай гадавіне, ды пераклад на беларускую мову верша ўкраінскага паэты Максіма Рыльскага «Беларусі», прысьвечаны дню гэтага «вялікаснага сьвята», як гаворыцца ў вершы. Цікава, што ніводзін зь беларускіх паэтаў ня прысьвяціў свайго верша гэтай падзеі, што рэдакцыя была змушаная выручацца вершам украінскага паэты. Ці не праявілася тут толькі празорлівая ў савецкіх умовах асьцярожнасьць, каб з гэтага ды чаго ня выйшла і ў канчальным выніку ня прышылі аўтару «буржуазнага нацыяналізму»? Украінскаму-ж аўтару прышыць беларускага нацыяналізму ўжо шмат цяжэй.

Верш пачынаецца й канчаецца наступнай праграмнай строфкай, часткава будучай травэстацыяй ведамага тосту Сталіна за расейскі народ:

Родную сваёй сястрою
Я лічу цябе здаўна:
З Украінаю маёю
У цябе душа адна.
Разам з нашым рускім братам,
Працавітым і заўзятым,
Расьцьвілі мы, як вясна.

Гэтак бяз «рускага брата» (мэтрычны размер верша, відаць, перашкодзіў дадаць — «старэйшага») нельга ўспамінаць ані Беларусі, ані Ўкраіны!

Ня менш вымоўным зьяўляецца і ўспомнены артыкул старшыні прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР. Дарма ў ім нехта шукаў-бы хоць найменшага заакцэнтаваньня мамэнту беларускае дзяржаўнасьці й ейнае ролі ў жыцьці беларускага народу. Гэтага там няма. У артыкуле, ад пачатку да канца, гаворыцца, як уже паказвае ягоны загаловак, аб савецкай «дружбе народаў» пад кіраўніцтвам і правадырствам «вялікага рускага народу» ды аб нячуваных «дабрадзействах», якія «бескарысьліва» аказваў і аказвае Беларусі гэты «вялікі народ», камуністычная партыя і савецкі ўрад. Гэтак дзякуючы «вялікаму рускаму народу» «Беларусь з адсталай ускраіны царскай Расеі ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна - калгасную рэспубліку зь перадавой сацыялістычнай культурай»; падчас другой сусьветнай вайны «толькі дзякуючы брацкаму садружаству савецкіх народаў вораг быў поўнасьцю разгромлен»; пасьля-ж вайны беларускі народ, «дзякуючы нязьмерным перавагам сацыялістычнага ладу, бескарысьлівай брацкай перамозе вялікага рускага народу», ня толькі хутка залячыў раны вайны, але і «дабіўся новых выдатных посьпехаў»; а аднымі з найвялікшых культурных дасягненьняў Беларусі зьяўляецца тое, што «на беларускай мове выданы «Капітал» Карла Маркса, поўны збор Твораў В. І. Леніна і 13 томаў Твораў І. В. Сталіна» ды «сыстэматычна выдаюцца творы клясыкаў рускай... літаратуры». І гэта ўсё, чым адзначыў Крэмль 35-ую гадавіну паўстаньня БССР?!

(Заканчэньне на 3-ай балоне)

# Сытуацыя выясьнілася

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

Як ведама, справа апрацаваньня і ўзгадненьня мірнага дагавору з Аўстрыяй пасьля заканчэньня вайны была даручаная заступнікам міністраў замежных справаў чатырох дзяржаваў: ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі й Савецкага Саюзу. Праект мірнага дагавору быў апрацаваны ўжо ў 1949 годзе, але, ня глядзечы на 261 паседжаньне, якія адбылі ў гэтай справе заступнікі міністраў, ня мог ён быць канчальна ўзгоднены з прычыны савецкай абструкцыі. Асталося пяць спрэчных пунктаў дагавору, на якія не маглі згадзіцца заходнія дзяржавы.

На Бэрлінскай канфэрэнцыі заходнія міністры пастанавілі прыціснуць Молатава да муру. Яны неспадзявана заявілі, што згаджаюцца і на гэныя 5 пунктаў, прыняцьця якіх дамагаліся Саветы, а амэрыканскі міністар замежных справаў Дальлес запатрабаваў, каб яшчэ падчас Бэрлінскай канфэрэнцыі, пайменна 18 лютага, мірны дагавор з Аўстрыяй быў падпісаны. З гэтай мэтай прыбыў у Бэрлін і аўстрыяцкі міністар замежных справаў др. Фігль.

Молатаў апынуўся ў клапатлівым палажэньні, але гэтым моцна ня пераняўся. Пабачыўшы, што ўсе дасюлешнія ягоныя козыры выбітыя з рук, ён пачаў знаходзіць новыя дамаганьні. Ён асьветчыў, што згаджаецца падпісаць мірны дагавар з Аўстрыяй пад дадатковымі ўмовамі: Аўстрыя астанецца назаўсёды знэўтралізаванай і пасьля падпісаньня зь ёй мірнага дагавору аж да канчальнага ўрэгуляваньня справы Нямеччыны й палагоджаньня пытаньня Трыесту акупацыйныя савецкія войскі ў Аўстрыі павінны астацца. Гэта матываваў савецкі міністар небясьпекай аншлюсу Аўстрыі зь Нямеччынай. Так як Молатаў не пакінуў найменшай надзеі, ці наагул калі-небудзь можа быць разьвязанае нямецкае пытаньне ня ў духу немагчымых да прыняцьця дамаганьняў Масквы, дык і акупацыя Аўстрыі савецкімі войскамі цягнулася-б у бесканечнасьць. Значыцца Аўстрыя мусіла-б падпісаць мірны дагавор, які накладае на яе вялізарныя эканамічныя цяжары, а ў замен не атрымала-б даслоўна нічога. Захаваўся-б і надалей стан вайсковай акупацыі краіны й далейшага савецкага ўмешваньня ў нутраныя справы Аўстрыі. Таму заходнія міністры і аўстрыяцкі міністар замежных справаў др. Фігль праект Молатава адкінулі. Дык і ў Аўстрыі ўсё асталося пастараму.

Палітычныя колы Захаду ўважалі, што з паміж пытаньняў Бэрлінскай канфэрэнцыі справа Аўстрыі зьяўляецца найпрасьцейшай. Яны надзеіліся, што Саветы дзеля заманіфэставаньня сваёй добрай волі гэтае пытаньне згодзяцца разьвязаць пазытыўна і для сваей прапаганды пажнуць плады канфэрэнцыі. Выйшла, аднак, наадварот. Масква ні за што ня хоча мірнага дагавору з Аўстрыяй, бо тады яна мусіла-б вывесьці свае войскі з Мадзяршчыны й Румыніі. Трыманьне савецкіх войскаў у гэтых дзяржавах матывуецца Саветамі тым, што яны патрэбныя для ахароны камунікацыйных лініяў у акупаваную Аўстрыю, падобна як прысутнасьць савецкіх войскаў у Польшчы выясьняецца неабходнасьцю такой ахароны камунікацыйных лініяў у Ўсходнюю Нямеччыну.

### АДЗІНЫ ВЫНІК КАНФЭРЭНЦЫІ: НОВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

Адзіным пазытыўным вынікам, калі яго наагул пазытыўным назваць можна, Бэрлінскай канфэрэнцыі зьяўляецца новая канфэрэнцыя. Гэтак ацэньвае вынікі Бэрлінскіх нарадаў заходняя прэса, гэткімі яны зьяўляюцца ў запраўднасьці.

Пытаньні Далёкага Ўсходу разглядаліся на закрытых паседжаньнях Бэрлінскай канфэрэнцыі, таму ўсе дэталі гэтых нарадаў ня ёсьць ведамыя. Затое ведамы іхны вынік: 26 красавіка сёлета будзе скліканая ў Жэнэве канфэрэнцыя ў справе Карэі (прадбачаная дагаворам аб перамір'і палітычная канфэрэнцыя ў справе Карэі), якая таксама будзе разглядаць і справы Індакітаю. У канфэрэнцыі ня возьмуць удзелу нэўтральныя дзяржавы, як гэтага раней дамагаліся Саветы, а толькі 17 дзяржаваў Задзіночаных Нацыяў, што ваявалі ў Карэі, Савецкі Саюз, Паўдзённая і Паўночная Карэя і камуністычны Кітай. Тое, што прадстаўнікі Пэкіну засядуць пры супольным канфэрэнцыйным стале разам з прадстаўнікамі Амэрыкі, зьяўляецца бясспрэчным сукцэсам Молатава, хаця Дальлес выразна асьвятчыў, на што згадзіўся і Молатаў, што гэта ў ніякім выпадку не абазначае вызнаньня Амэрыкай кітайскага камуністычнага ўраду.

Некаторыя заходнія колы ўважаюць за ўзапраўды важнае пазытыўнае дасягненьне Бэрлінскіх нарадаў, што напасьледак дойдзе да канфэрэнцыі ў справе Карэі. Свайго задаваленьня з такога абароту справаў асабліва ня скрывае Францыя, якая надзеіцца, што магчыма ўдасца дагаварыцца ў Жэнэве ў справе заканчэньня індакітайскай вайны. На нашую-ж думку, гэты сукцэс Захаду зьяўляецца ў найменшым выпадку вельмі ўмоўны, а таму й сумліўны. Няма абсалютна ніякіх дадзеных, што канфэрэнцыя ў Жэнэве не закончыцца тым самым, што і ў Бэрліне. Трэба не забывацца, што вынік будучай Жэнэўскай канфэрэнцыі, так як і Бэрлінскай, абсалютна не залежыць ад Захаду, а толькі ад Масквы.

### І ШТО ДАЛЕЙ?

У нашых ранейшых артыкулах мы цьвердзілі, што Захад, у першую чаргу Амэрыка будзе разглядаць Бэрлінскую канфэрэнцыю не як адну з чарговых спробаў дагаварыцца з Саветамі, але як спробу апошнюю. Мы пісалі, што канфэрэнцыя гэтая, ня гледзячы на свой вынік, павінна стацца зваротным пунктам у дачыненьнях між Захадам і Ўсходам: або, у выпадку хоць часковай удачы канфэрэнцыі, пачатак, запраўднага адпружаньня й доўгатрывалы мір на падставе сяньняшняга падзелу сьвету, або, у выпадку ейнага правалу, поўная мабілізацыя ўсіх заходніх сілаў, каб гэты трывалы мір на Саветах вымусіць або дасягнуць яго шляхам новае вайны.

Заіснавала гэтая другая эвэнтуальнасьць. Канфэрэнцыя правалілася із трэскам. Ніхто на Захадзе ўжо ня можа мець сумліваў што да запраўдных намераў Масквы. Усім павінна быць ясна, што Масква ня толькі хоча захаваць надалей дасюлешні падзел сьвету, але: й пашырыць сваю ўладу на ўсю Эўропу, што было-б адным з наступных этапаў для ажыцьцяўленьня ейных канчальных плянаў — запанаваньня над цэлым сьветам.

Ці аднак такое перакананьне вырве Захад зь ягонага дасюлешняга дэфэтызму й зродзіць у ім волю да супрацьдзеяньня, астаецца яшчэ і цяпер адкрытым пытаньнем. Молатаў, назьдзекваўшыся ў Бэрліне, колькі хацеў, над Захадам, пакінуў аднак сваё «але». Ім будзе канфэрэнцыя ў Жэнэве. Праўда, яна займецца выключна далёкаўсходнімі пытаньнямі, тым ня меней некаторыя заходнія дзяржавы, перадусім Францыя, будуць зь ёй вязаць свае надзеі для ўрэгуляваньня балючых для іх азіяцкіх пытаньняў. Можа наступіць далейшы пэрыяд вычэкваньня — а ну-ж, гэтым разам можа ўдасца? Некаторыя палітычныя абсэрватары выказваюць пагляд, што правал Бэрлінскай канфэрэнцыі не павялічыў шансаў ратыфікацыі Францыяй дагавору аб эўрапэйскай арміі. Яны ўважаюць, што канфэрэнцыя, ня гледзячы на свае нэгатыўныя вынікі, усё-ж такі прынесла некаторае псыхалягічнае адпружаньне. Адкрытая савецкая агрэсія ў дадзены мамэнт не зьяўляецца праўдападобнай, а таму арганізацыя абароннай сыстэмы Захаду ня выдаецца такой сьпешнай.

Нам здаецца, што наступіў мамэнт, калі Захад канчальна пабачыў, што мірным шляхам з Саветамі нічога не дасягне. Абсалютна нічога! Адзінай мовай, якой ён можа гаварыць з Савецкім Саюзам, зьяўляецца мова сілы. Ад таго, ці Захад з гэтага свайго перакананьня захоча зрабіць адпаведныя вывады, у будучыні, мо' навет вельмі блізкай, будзе залежыць лёс усяго сьвету, а ў ім і самога Захаду.

**Язэп Каранеўскі**

# „Трагэдыя Расеі“

**II**

**(Першая часьць артыкулу, гл. № 49)**

У першым сваім артыкуле пад гэтым назовам я сказаў, што веліч былой Расеі зьяўляецца трагэдыяй для тых народаў, за кошт якіх яна расла. Цяпер хачу дадаць, што няма ніякай і для нікога трагэдыі ў няўхільным і канчатковым распадзеньні цяперашняга СССР на ягоныя складовыя часткі. Але ці здыймаецца гэтым самым пытаньне аб трагізьме для самога расейскага народу нагул? Бясспрэчна — не. Толькі яго, гэты трагізм, расейскае зарубежжа шукае ня там, дзе ён ёсьць. Ён знаходзіцца ў глыбінях самога расейскага агрэсыўнага нацыяналізму. Гэта для кажнага, хто ўмее думаць, відавочна, навет, для чужаземцаў.

Паводля вэрсіі «Новага Рускага Слова» за 6. 10. 53 г. адзін амэрыканскі выдатны дыплямат, пасьля доўгага побыту ў СССР, заявіў: **«назіраючы характар Расейца, ён сумляваецца, каб там калі-небудзь узьнік вольны ўрад».**

Зусім зразумела, што называючы Расейца, ён ня меў наўвеце ні Беларуса, ні Ўкраінца, ні каго-небудзь з каўкаскіх або цюрскіх народаў. Ён меў наўвеце характар якраз Расейца — расейскую дзяржаўную структуру. Трэба толькі разьмежаваць: якога Расейца? Зусім зразумела, не работніка і не селяніна або простага інтэлігента, а кіруючага дзяржавай, вышэйшую расейскую сфэру. Калі-ж ён, у дадатак да назіраньняў, вывучаў гістарычныя факты, дык, зноў-жа, меў справу зь мерапрыемствамі царату і дваранства або баярства (у далёкім мінулым).

Але ня ў гэтым, ці ня зусім у гэтым справа, каго ён назіраў. Справа ў тым, што ў словах гэтага дыплямата — найвялікшая гістарычная праўда. Не дарма на Беларусі кажуць: «здалёку відней!»

У жыцьці маскоўскае дзяржавы адвечна змагаюцца два гістарычныя пачаткі: адзін дэмакратычны, заходні, што йдзе ад старадаўнага славянскага веча, выбіральных князёў і інш.; ад рэспублікі Вялікага Ноўгараду, Пскова, Крывіцкага Полацка і Кіеўскай Русі, — «шлях з Вараг у Грэкі»; другі — рэакцыйны, па сваёй сутнасьці дэспатычны, азіяцкі, пераняты Масквой ад сваіх усходніх суседзяў. Пасьля заваяваньня Маскоўскага Княства нашчадкамі Чынгіс-Хана, гэты пачатак атрымаў перавагу. Сталася гэта з тае прычыны, што для вызваленьня ад сваіх наезьнікаў слабое Маскоўскае княства мусіла змабілізаваць усе свае сілы й трымаць уладу ў вадных руках — «клін клінам выбіваць». Такім чынам славянскае веча, земскія сходы і іншыя народныя прадстаўніцтвы тут былі скасаваныя. Трэба прыняць пад увагу і тую канспірацыю, зь якой адбываліся змовы супраць стаўленікаў Хана ўнутры краіны. У гэтых акалічнасьцях нямінуча жыцьцё чалавечай адзінкі, ягоная воля і маемасьць расцэньваецца толькі з аднаго гледзішча — вартасьці для мілітарных мэтаў. Той, хто жыў у таталітарных дзяржавах, гэта добра выпрабаваў на сваім карку.

Але, пасьля бойкі на Куліковым полі, г. зн. пасьля канчатковага вызваленьня ад чужаземных наезьнікаў, Масква не вярнулася да страчанай волі, як гэта заўсёды здаралася ў іншых славянскіх княствах, а пачала канцэнтраваць усю сваю ўвагу на папярэджаньні паўторнага наезду. Такім чынам, зь бегам часу, узьнік зародак тэй новай мілітарнай маскоўскай ідэялёгіі, які, у пазьнейшыя часы, ператварыўся ў маскоўскі агрэсыўны нацыяналізм і, напасьледак, у імпэрыялізм. Пазьней татарская небясьпека зьнікла зусім. Тымчасам мілітарныя сілы краю ўзрасьлі, новая ідэялёгія ўзмацнела, улада ў руках князя стала непахіснай. Ужо вялікі маскоўскі князь **Іван Каліта** сьціроўвае гэтую ідэялёгію на так званае **«зьбіраньне рускіх земляў».**

Перш-на-перш у варбіту Масквы пападаюць суседнія з Масквой славянскія княствы Ўладзімера, Разані, Цьвера. Па меры гэтага ў руках князя ўсё болей і болей канцэнтруецца ўлада. Жыцьцё адзінкі ставіцца ні ў што. Найвышэйшага пункту гэтая канцэнтрацыя дасягнула за Івана IV, названага гісторыяй з гэтае прычыны Грозным. Цар душыў усё чалавечае, усё жывое, волялюбнае, ператвараючы чалавека, навет баярына, ужо не ў нявольніка, але ў быдлё. Даволі сказаць, што ўлюбленай ягонай «пацехай» было праехацца па вуліцах Масквы па трупах людзей. Ягоныя апрычнікі маглі схапіць і закатаваць кажнага бязь ніякае віны й бяз суду (тое самае, што пачалі рабіць чатырыста год пазьней «апрычнікі» Сталіна). За Івана Грознага новая ідэялёгія ў маскоўскай дзяржаве дасьпела ўжо канчаткова. Паміма чыста эканамічных і іншых матываў, цар Грозны ня можа пагадзіцца, што пад бокам існуюць вольныя Ноўгарадзкая Рэспубліка, Пскоў і Вялікае Княства Літоўскае (Беларусь), дзе жыцьцё рэгулюецца сталым законам, зацьверджаным народам, князі выбіраюцца на вечах і куды з маскоўскай дзяржавы ўсьцяж уцякаюць людзі. Ён нападае на першыя два й заваёўвае іх. Па прыкладу татарскіх ханаў, паліць гарады, а насельніцтва забірае ў палон і засяляе ім Сібір, што быў ужо на той час ачышчаны ад рэштак Татараў Ермаком. Каля Полацку Грозны атрымаў страшнае апаражаньне ад Вялікага Літоўскага Княства, у склад якога цяпер ужо ўваходзілі ўсе беларускія землі (Полацак, Смаленск, Амсьціслаў, Тураў, Пінск, Наваградак і інш.). З заваяваньнем Ноўгараду із Псковам маскоўская дзяржава пашырылася ад Зауральля да Валдайскіх гораў. Аднак гэтае пашырэньне не дало ніякіх карысьцяў расейскаму народу.

Пасьля сьмерці Грознага ў дзяржаве пачалася страшная анархія, ведамая ў гісторыі, як «смута», якая трывала каля дваццаці пяці год. Тлумачыцца гэта тым, што волялюбныя ноўгарадцы й псковічы цяжка асымілёўваліся сярод згубіўшых смак да волі масквічоў і гэтым самым уносілі ў дзяржаву закалоты, падобныя да тых, якія ў Савецкі Саюз і ягоных сатэлітаў уносяць цяпер Палякі, Чэхі, Румыны, Беларусы, Украінцы, Прыбалты ды ўсходнія Немцы. Амаль вымерлы ўжо да гэтага часу ў маскоўскай дзяржаве вольны заходні пачатак ажывіўся. У «смуце» яго ўзначальваў Васіль Шуйскі, здаецца, уладзіміравец; пачатак Масквы, новую ейную заваявальную ідэялёгію ўзначальваў Барыс Гадуноў. Было недалёка да таго, што расейскі народ мог-бы назаўсёды вылячыцца ад прышчэпленага яму агрэсыўнага нацыяналізму. Калі-б гэта сталася, выйгралі-б ня толькі суседзі Масквы, але і ўвесь Захад і сам расейскі народ. Гэтае пытаньне вельмі добра некалі распрацаваў расейскі філёзаф Чаадаеў, прызнаны царом за гэта «вар'ятам» і пасаджаны ў жоўты дом (ці не таму ён цяпер не ўспамінаецца і расейскім зарубежжам?).

Маскоўскую дзяржаву выратаваў волялюбны наўгародзкі элемэнт, запанаваўшы на маскоўскі пасад свайго баярына Міхала Раманава. На поўстагодзьдзе ў маскоўскай дзяржаве запанаваў супакой і парадак. Абапіраючыся на ўвесь народ, цар Міхал узноў вярнуў скасаваныя сваім папярэднікам вольнасьці, аднавіў земскія саборы, спыніў войны і стаў рупіцца аб пашырэньні рамесьніцтваў, гандлю і асьветы. За гэта ў расейскай гісторыі ён атрымаў мянушку «ціхі («кроткий»). Але ўжо ўнук Міхала Пётр I (Вялікі) павярнуў Расею ўзноў на старыя рэйкі.

Ацэнка Пятра расейскай гісторыяй, як «заходніка», зусім няправільная, хоць ён і адразаў сваім высокім баярам собскаручна бароды і змушаў іх адзяваць заходнія кароткія сурдуты замест доўгіх маскоўскіх халатаў. Ягонае «заходніцтва» чыста маскоўскае, сталінскае. За Пятра, таксама як і за Сталіна, здымалі пад гвалт народу царкоўныя званы і пералівалі іх у гарматы і, таксама, ня лічыліся з воляй чалавека. «Індустрыялізацыя» краіны, якую Пётр распачаў, была падпарадкаваная выключна ідэі маскоўскага агрэсыўнага нацыяналізму і нічога супольнага з палепшаньнем дабрабыту людзей ня мела. Ды й сама гэтая «індустрыялізацыя» праводзілася мэтадамі выключна Івана Грознага. Улада за часоў Пятра дасягнула найвышэйшага цэнтралізму, цар стаў на чале навет праваслаўнай царквы.

У вонкавай палітыцы Пётр праводзіў тую-ж лінію Івана Грознага. Ён стараўся прабіць «вакно» ў Заходнюю Эўропу, заняць выгодны стратэгічны пункт над Балтыкай. Дзеля гэтага правёў дзьве вайны із Швэдамі, першая зь якіх скончылася для яго вельмі дрэнна. У сваім тэстамэньце ён нарысаваў плян змаганьня з другім цэнтрам усходніх славянаў — зь Літвой (Беларусяй), і навет аднаго разу нарушыў ейную бясьпечнасьць. Але гэта для яго пахла нядобрым, бо Вялікае Літоўскае Княства было на той час сільнае, і ён мусіў адступіць. Затое ім была праведзеная вайна за канчатковае ўключэньне Ўкраіны ў маскоўскую імпэрыю. Яшчэ далей на паўдня ён заўладаў Азоўскім пралівам, выдзержыўшы вайну з Крымскім ханам. Пра Пятра казалі, што ён сваёй палітыкай паставіў Расею «на дыбкі» перад прорвай: адзін скок і... катастрофа! Яна выявілася яшчэ за жыцьця цара г. зв. «Стралецкім бунтам». Прычыны гэтага бунту зусім зразумелыя: ваенныя авантуры, якія прывялі народ да поўнае галіты, гнёт сцэнтралізаванай улады, умешваньне ў справы царквы, прысьпешаная «індустрыялізацыя», будова новых гарадоў на касьцёх людзей і да г. п. Пётр здушыў гэты бунт зь нячуванай жорсткасьцю; даволі сказаць, што на кол садзілі бяз суду ня толькі западозраных удзельнікаў у буньце, але і іхных жонак і дзяцей. Закасаўшы рукавы, цар сам сьсякаў галовы. Тым ня меней, маскоўская рэакцыя ўзьвяла гэтага цара і ўзводзіць цяпер, разам навет з бальшавікамі, у гэроі!

Потым Кацярына (таксама вялікая!?), якую пазьней разрэклямавалі расейскія гісторыкі, як «лібэральную» царыцу, праводзіла лінію, вызначаную Пятром у ягоным тэстамэньце: самаўладзтва ўнутры, імпэрыялістычная экспансія навонкі. Яна толькі сьцірала войстрыя куты пётраўскай палітыкі, як цяпер сьцірае Маленкаў войстрыя куты палітыкі Сталіна. За яе згубіла сваю незалежнасьць і Беларусь, а таксама й Польшча. Аднак найцяжэйшым ударам «лібэральнай» царыцы было ўвядзеньне паншчыны («крепостное право»). Лінія маскоўскага агрэсыўнага нацыяналізму дайшла да свайго натуральнага канца. Над Расеяй завіс сьмерч, які адкінуў яе ў беспрасьветнае далёкае мінулае, роўнае хіба толькі нападу Татараў. Народ можна было прадаваць, прапіваць і навет праігрываць у карты...

Апошнія дзьвесьце год прайшлі пад знакам гэтага безагляднага абсалютызму — у няволі палітычнай, сацыяльнай і духовай. Не маглі ўжо нічога зьмяніць ні паходы вольных (беглых) людзей з

**(Закончэньне на 7-ай балоне)**

# Паказальная зьява

**(Закончэньне з 2-ой балоны)**

Яшчэ пры Сталіне ўсе гэтыя «дабрадзействы», якія «ўшчасьлівілі» беларускі народ, былі-б прыпісваныя ня толькі «вялікаму рускаму народу», ня толькі камуністычнай партыі і савецкаму ўраду, але таксама й самому факту існаваньня беларускай дзяржаўнасьці ў форме БССР. Сяньня-ж, у пачатку эпохі Маленкава, у эпоху яшчэ больш завойстранага русыфікатарскага курсу, гэтага рабіць ужо нельга.

Мы шырэй затрымаліся над фактам амаль поўнага прамаўчаньня, паза ўспомненым афіцыйным артыкулам Казлова, сапхнутым на другую балону газэты, 35-ай гадавіны БССР, бо факт гэты мае сваю вялікую і нядвузначную вымову. Ён, побач з многімі іншымі фактамі, выразна паказвае, што маленкаўскі русыфікатарскі курс пасьля ўпадку Бэрыі значна завастрыўся.

Тут мімаволі ўсплывае на думку іншая гадавіна, якая ў цэлым Савецкім Саюзе адзначаецца зусім іначай. Гэта 300-ая гадавіна Пераяслаўскага дагавору, на моцы якога Багдан Хмяльніцкі аддаў Украіну пад пратэктарат Масквы. Ня гледзячы на тое, што супраць гэтага дагавору пазьней бунтаваліся самі Ўкраінцы і бесьперапынна змагаліся з Масквой за сваю незалежнасьць, гадавіна Пераяслаўскага дагавору сяньня шырака выкарыстоўваецца шавіністычнай Масквой, як факт ажыцьцяўленьня «спрадвечных мараў» украінскага народу да «дабраволънага» і «на вечныя часы» задзіночаньня Украіны з тым-жа «вялікім рускім народам». Таму якраз гадавіна гэтая сьвяткуецца зь нябывалым дагэтуль шумам ня толькі ў Савецкай Украіне, але і ўва ўсіх іншых рэспубліках Савецкага Саюзу, а год 1954 абвешчаны з гэтае нагоды «годам Украіны». Украінскі народ, як і ўсе іншыя нерасейскія народы, мусіць такім спосабам маніфэставаць сваю радасьць із собскае няволі.

У сілу аб'ектыўных фактаў сьвяткаваньне 35-ай гадавіны паўстаньня БССР мусіла-б мець трохі іншы аспэкт. Такое сьвяткаваньне, ня гледзячы на прапагандовую траскатню аб «дабрадзействах» «вялікага рускага народу», ўсё-ж такі прыпаміналаб беларускаму народу аб ягоных нацыянальных і палітычных правох, магло-б ускалыхнуць ягоным патрыятычным сумленьнем. А таму Крэмль пастанавіў: лепш аб гэтай гадавіне прамаўчаць.

**Алесь Крыга**

**Р. Склют** 2)

# Званар Адраджэньня

**(ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ)**

**(Працяг)**

Пытаньне аб нашым шляхоцтве першы ўзьняў быў Алесь Гарун (А. Прушынскі) адразу-ж па рэвалюцыі 1917 г., адылі, дзеля розных прычынаў, ягоны нарыс пра «Культурны стан Беларусі да Лютаўскае рэвалюцыі» застаўся няскончаны й неапублікаваны, і толькі ў 1924 г. даўны сябра Гаруноў зь сібірскае ссылкі, Язэп Лёсік, узяўшыся за тую-ж тэму, асьветліў поўна й глыбока ў межах яе й дадзены мамэнт у вартыкуле пад тым-жа, што і ў Гаруна, назовам, выдрукаваным у зборніку «Беларусь», выданым у 1924 г. у Менску пад рэдакцыяй У. Ігнатоўскага, З. Жылуновіча й інш. (бал. 101-154). «Тут дарэчы будзе выясьніць адно непаразуменьне што да беларускага шляхоцтва, — пісаў тут Язэп Лёсік. — Беларускае шляхоцтва дагэтуль выдзялялася з агульнай земляробскай масы й разглядалася, як нешта чужое, не беларускае, скарэй польскае. Пара скончыць з гэтым непаразуменьнем. Беларускае шляхоцтва — самае тыповае беларускае насяленьне. Шляхціц больш захаваў культурна-нацыянальных традыцыяў, тыповай беларушчыны, як хто-небудзь іншы. А па свайму сацыяльнаму палажэньню — гэта той самы земляроб, што й селянін. Сучаснае беларускае шляхоцтва нічым ня розьніцца ад беларускага сялянства. Некалі яно займала асобнае палажэньне, калі не эканамічна, то сацыяльна; тады й мяшчанства складала асобную сацыяльную адзінку. На Захадзе, у Эўропе, такія грамадзкія групы парадзілі прамысловую й тарговую буржуазію, а ў нас, на Беларусі, яны зьліліся зь земляробскай сялянскай масай, утрымаўшы толькі старасьвецкія назовы, як памяць прошлага палажэньня. Як і пераважная большасьць цяперешняга нашага мяшчанства выдзяляецца зь сялянскае масы толькі тым, што жыве ў мястэчку (у Расеі мястэчак ня было й няма), а не ў сяле, ці вёсцы, так і сучаснае беларускае шляхоцтва непадобна да сялянства хіба толькі тым, што жыве ў засьценках або хуторамі, а ня сёламі, ці вёскамі».

Пасьля гэткага агульнага выясьненьня Лёсік насьвятляе гістарычны працэс фармаваньня беларускага шляхоцтва, сьцьвярджаючы найперш, што «вайсковы стан людзёў з правамі магнатаў, або гэрбоўнай шляхты, эканамічна залежны ад іх, даўней і называўся проста шляхтаю, чым і розьніўся ад звычайнага паспольства, або грамадзянства — сялян, мяшчан і інш. Сваім матар'яльным палажэньнем гэтая шляхта нічым ня розьнілася ад сялянства, бо таксама мела невялічкі кавалак зямлі, — часам уласны, а часам чужы, панскі ці дзяржаўны, на каторым шляхціц сядзеў з ласкі багатага пана або дзяржаўных вураднікаў, адміністратараў-старастаў і ваяводаў. З прылучэньнем Беларусі да Расеі частка гэтае шляхты патрапіла давесьці сваё даўнейшае шляхоцтва й была далучаная да расейскага дваранства, а частка, ня меўшы дакумэнтаў, прымушана была прыпісацца да мяшчан або папала ў рады «казённых» сялян. Але ўсе яны не забылі свайго паходжаньня ды дагэтуль адрозьніваюць сябе ад вакалічнага сялянства».

Адзначыўшы некаторыя драбнейшыя гістарычныя сацыяльныя групы, што таксама ўліліся ў беларускае шляхоцтва, як г. зв. «панцырныя баяры», што несьлі даўней паштовую службу, Лёсік канстатуе: «Усе пералічаныя групы і складаюць цяперашняе беларускае шляхоцтва. Яны й дагэтуль трымаюцца асабняком і неахвотна зьліваюцца зь сялянствам і мяшчанствам, хоць па свайму эканамічнаму палажэньню нічым ня розьняцца ад звычайных сялян-земляробаў. Памяць аб прошлым дажыла да нашых дзён, і шляхціц стараецца трымаць, як даўней, свой «шляхоцкі гонар».

Далей Лёсік больш дэтальна апісвае жыцьцё й эканамічнае палажэньне нашае шляхты: «Жывуць шляхты хутарамі або засьценкамі, і засьценак тым розьніцца ад вёскі, што ў вёсках жыве сялянства, а ў засьценках — шляхта. Шляхта ня была пад паншчынай, ня ведала прыгону і мае часам большыя кавалкі зямлі, як звычайна ў сялян... Была й безьзямельная шляхта, але гэты род шляхты арандаваў зямлю у суседніх паноў-земляўласьнікаў. Гэта — так званыя пасэсары. Горшае палажэньне было тае шляхты, што выйшла з чыншавікоў: яна сядзела па панскіх землях да часу, пакуль трывала панская ласка. Гэтая шляхта, пазбаўленая зямлі, напаўняла потым панскія пакоі розным падручным элемэнтам. Яна стала служыць паном у якасьці пісароў, аканомаў, вахмістрыняў, ато й проста лёкаямі». Тут-жа адразу можна адзначыць, што з апошніх апісаных Лёсікам групаў безьзямельнае шляхты выйшлі якраз і Янка Купала і наш Ластоўскі, у якога, паводля ўспаміданых ягоных аўтабіяграфічных матар'ялаў, выкарыстаных у «Хрэстаматыі» Дварчаніна, «бацькі, Юстын і Ганна, належалі да клясы дробных арандатараў-земляробаў (безьзямельных)».

Нарэшце Лёсік дае характарыстыку шляхты з боку веравызнаннага, культурнага й нацыянальнага: «большасьць шляхты трымаецца рымскага вызнаньня — каталіцтва, як усе мясцовыя паны-земляўласьнікі, але ёсьць шляхта і грэцкага, праваслаўнага вызнаньня. Уся шляхта звычайна гаворыць пабеларуску й толькі на кірмашы, ці на фэсьце, любіць пазухаваць панскаю моваю, устаўляючы ў сваю беларускую гаворку два-тры польскія словы. Пагаварыць пры людзях папанску шляхціц лічыць таксама патрэбным, як чыста адзецца ў сьвята. Гэта яго сьвяточная вопратка, якую ён ськідае дома да бліжэйшага выпадку. Агульная маса шляхоцтва па культурнасьці вышэй за селяніна. Шляхта-жанкі й мужчыны — усе граматныя, найчасьцей папольску. Усё шляхоцтва захавала й трымаецца беларускага, дзядоўскага ўкладу жыцьця. У гэтым кірунку шляхціц большы Беларус за селяніна. Беларускія сялянскія звычаі, забабоны, беларускія народныя песьні пануюць сярод шляхоцтва. Беларускую старасьвеччыну шляхціц захаваў больш чыстай, як сялянскія масы, куды ўплыў гораду й салдаччыны пралажыў ужо даволі значную дарогу».

Выказваньні Язэпа Лёсіка давялося прывесьці тут як найпаўней, бо ў іх пытаньне беларускага шляхоцтва было пастаўленае ўпяршыню на ўвесь рост, сьмела, шчыра й аб'ектыўна, ды пры тым чалавекам, які сам ня быў ані шляхціцам, ані навет каталіком. Яшчэ цікавей адзначыць, што зусім блізка да Лёсіка ставіў гэтае пытаньне навет ягоны антыпод, асабліва з часоў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу — галоўны ідэялёг варожага нацыянальна-незалежніцкаму лягеру г. зв. «беларускага абласьніцтва», Аўсей Канчар. У сваей кнізе «Беларускае пытаньне» (Е. Канчер: **Белорусский вопрос. Москва, 1919**, бал. 43) гэты аўтар, увесь час падчыркваючы сваё прарасейскае й антынезалежніцкае становішча, заставаўся ўсё-ж даволі аб'ектыўным у цэлым сьцягу мамэнтаў, а ў тым і пра шляхту нашую пісаў, што яна «мала мела супольнага з расейскім памесным дваранствам. Апошняе ў дачыненьні да працоўнага сялянства было зямельнай, эксплёатуючай буржуазіяй, тыпам запраўднага фэўдалізму. тымчасам як беларуская шляхта на пачатку свае фармацыі (XIII-XIV ст. ст.) станавіла сабою рыцарства, а затым, з разьвіцьцём польска-дваранскага земляўладаньня, абярнулася ў малазямельную ці зусім безьзямельную клясу прыдворных прыжывалаў, аканомаў, арандатараў-перадатнікаў (пасярэднікаў), намесьнікаў і проста фаварытаў ды дзяньгубаў. Шляхта захавалася дагэтуль, толькі яна яшчэ больш зьбяднела й рашчынілася між працоўных элемэнтаў; разрозьненыя й раскіданыя ейныя прадстаўнікі, засвойтаўшы ў спадчыне ад бацькоў польскую культуру й каталіцызм, канчальна залічалі сябе да Палякоў (гэта яны, галоўна, і становяць успомненыя 5% беларускіх «Палякоў»); іншыя, наадварот, разам з прадстаўнікамі адукаванае праваслаўнае сялянскае інтэлігенцыі, паклалі пачатак адраджэньню беларускага нацыянальнага «руху» (цікава, між іншага, што ў іншым месцы, на бал. 117, Канчар прызнае й тое, што «Беларусы-каталікі ўсьведамілі сябе, як нацыю, у куды большай ступені, чымся Беларусы-праваслаўныя»).

Аб'ектыўнае высьвятленьне запраўднага палажэньня беларускага шляхоцтва памагае зразумець, чаму якраз з гэтага грамадзкага пласта выйшла найбольш піянэраў нацыянальнага адраджэньня, у тым ліку й наш В. Ластоўскі. З высьвятленьня гэтага робіцца зусім ясна: 1. што зраўнанасьць з бальшынёю народу — сялянствам — у найбольш вызначальнай роўніцы самых фактычных жыцьцёвых абставінаў, у роўніцы эканамічнай, змушала найбольш чулыя натуры із шляхоцтва пачуваць сваё поўнае адзінства з тэй бальшынёю, а адсюль і сваё пакліканьне й навет права прамаўляць ды дзеіць ад імя яе, ад імя «Мужыка-Беларуса»; 2. што перахоўваньне нацыянальнае самабытнасьці ня толькі разам з гэтым «Мужыком-Беларусам», але нат і ў большай яшчэ ступені, стварала вызначальную передумову да нацыянальнае ськіраванасьці й зьместу тае дзейнасьці; 3. што гістарычныя ўспаміны свае былое грамадзкае й людзкое паўнавартаснасьці тых часоў, калі якраз шляхта і ўважалася за «людзёў» і «народ» (у Вялікім Княсьцьве Літоўскім, тымчасам як сялянства, заўсёды запрыгоненае ў масе і ніколі за такіх «людзёў»-«народ» не ўважанае, не магло й мець падобных успамінаў), кіравалі да выстаўленьня й праводжаньня асноўнага адраджэнскага прынцыпу аднаўленьня людзкое годнасьці ўсіх «Мужыкоў-Беларусаў», прынцыпу, сфармуляванага ў нашаніўскім- купалаўскім клічы «людзьмі звацца»; 4. што, нарэшце, большая культурнасьць шляхоцтва і навет праходжаньне школы польскае культуры таксама ставалі тут у прыгодзе, паколькі якраз гэтая школа прышчапляла заўсёды найбольш важны для нацыянальна-прыгнечанага народу нацыянальны мамэнт, тымчасам як, скажам, школа культуры расейскае гадавала больш у кірунку мамэнтаў сацыяльных дзеля неактуальнасьці нацыянальнага мамэнту для самой імпэрскай расейскай нацыі, што цешылася ў поўнай меры палажэньнем панаваньня безь якіх-небудзь абмежаньняў нацыянальнага парадку.

# Літаратурны Дадатак

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

## Цыкль: „Ня зрадзім“

(прысьвячаецца — Бацькаўшчыне)

### ХОЦЬ ДАВОДЗІЦЦА СЯНЬНЯ ПЛАКАЦЬ...

Пазалочанай дзідай захад
скруткі хмараў наскрозь працяў...
Хоць даводзіцца сяньня плакаць,
Як, аднак,
ня любіць жыцьця!
Як із прагай ня браць іскрынкаў
шчасьця,
ня пераймаць тугі,
хоць і тое, і гэта зьгіне
заўтра, як на вадзе кругі...

Залатым, нябачаным птахам
маладзік над зямлёй усплыў...
Так,
хоць хочацца сяньня плакаць,
мы расьсейваем сум, як дым.
Ня ўдасца, праўда, забыцца
нам тут нашых сівых бяроз,
васільковых узьмежкаў, ніцай
хаты, дзе ад дзіцяці рос.
Але жаль па іх нас ня скосіць
і ня выкруціць сілы з рук.
Хоць навокал і золь, і восень, —
верым мы у сваю Беларусь.
Маці любая, пэўне сяньня
уздыхаеш па нас і Ты.
Ня тужы,
ў мітусьні выгнаньня
не дамо мы душы астыць.
З гэраічнай ня выйдзем ролі,
у балота ня сьхілім сьцяг,
і ня зрадзім нідзе й ніколі
ні сябе,
ні Цябе,
ні жыцьця!

### О, ШЫПШЫНА МАЯ, БЕЛАРУСЬ!

— «О, Беларусь, мая шыпшына...»
У. Дубоўка.

Грае люты на струнах завей
далікатнае, смутнае «scherzo».
Пачакаю, аж зноў весялей
будзе трохі на сэрцы.
Аж затліцца ізноў у крыві
хваляваньняў блакітны вагенчык.
аж і сьцюжа, і дні без навін
шэры час свой ад'енчаць.
Аж ізноў баразной пабрыдуць
дні вясны у вадзе па калені,
аж мы скарбы пачуцьцяў і дум
зноў на словы разьменім...
Цёплых слоў гэтых трэба усім
нашым часам суровым і збройным.
Што-ж ты сьвету сягоньня дасі,
як ня песьню, ня мрою?
Як прымусіш паверыць сваіх,
што яшчэ расьцьвіце наша доля,
што ніць шчасьця шчэ будзем мы віць
пад крывіцкаю роднай стольлю?

. . . . . . . . . . . .

Грае люты на струнах сучча
далікатнае, смутнае «scherzo»...
Не, ня буду чакаць, аж маўчаць
маё знудзіцца сэрца.
А удару па цяглiцах струн
із тугою, ізь сілай нячутай:
«О, шыпшына мая, Беларусь,
маё шчасьце й пакута!»

### ЖЫЛІ МЫ Й БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

Калісь, бывала, ўпотайкі
асеньні сухавей
жывою пазалотаю
крапіў з крапідла сьвет.
Засьвеціць сонца — капае
яна, як мёд густы,
зь лясоў у жоўтых лапінах,
з лагчынаў залатых.
А выйдзеш за аселіцу —
пад ногі ўсё гусьцей
чырвоная мяцеліца
чырвоны сьнег мяце!
Цяпер —
стаптаны правілы:
слатою восень дзьме.
Вятры чужын расплавілі
нат восенскую медзь,
ашчэрылі дні чорнымі
зубамі пажарышч,
жыцьцё з дарогі торнае
зьвялі у гушчары.
Ці-ж дзіў, што шэрай сьнедзяю
паростае нат верш,
і што і сам ня ведае,
жывеш, ці ня жывеш?
Але дарма,
шчэ полымя
ня згасла у крыві,
яшчэ рукамі голымі
мы шчасьце ймкнем лавіць.
Хоць сяньня зь ім, няласкавым,
і йдзем мы на нажы,
хоць восень нас аплаквае, —
Жылі мы
й будзем жыць!

### КАЛІ...

Калі на клёнах златалістых
дрыжаць апошнія лісты
і сівер сіліцца расхрыстаць
сівую восенскую стынь,
калі вінoм старым крынічаць
каўшы мядзяныя лагчын
і кветкай дзіўнай, экзатычнай
канае сонца на суччы,
калі сівее з жалю й далеч
і межаў жоўтая трава —
тады,
тады так смутак паліць,
што ўжо, здаецца, ня стрываць!
І смажыць смага вусны, сэрца,
як дзень асеньні,
скончыць шлях...
Адно,
ці нас утуліш сьмерцяй?
Ну, добра, сьмерць,
а што пасьля?
Хто-ж, хай над ім гадоў завея
курган навее, ўзьніме мур, —
засьне з нас гэтак, што заўмее
Цябе забыцца, Беларусь?
Хто шчыра так памрэ, што згасіць
нязгаслы, палыменны зьніч,
які калісь, а ўпаліць шчасьцем
і наш прасьцяг,
і нашы дні!

### І СЬНІЦЦА МНЕ...

Люблю я лятуценіць,
калі далоні чыесь
стаўляюць прасьніцу з кудзеляю сівой
і пачынаюць прасьці ніткі дажджавыя
над галавой...
Няма канца дажджу, ні гуду верацёнаў.
Віецца зь песьняй ніць на шпулю, на душу,
і сьніцца мне, што звоніць наш сасоньнік
у сэрцы і ўвушшу...
Што ў засенях сасон сузорыць сон лілёвы,
жывіцай плачуць з радасьці камлі,
і новых песьняў строй у гольлі вецер ловіць,
страсаючы з крыльля
зялёны пыл далін.
Кахалі й вы, як я,
старыя нашы пушчы —
віхрамі ўсьпенены, шумлівы акіян...
Ці горкі сум па іх
тут вашых душ ня сушыць?
Баліць мая...
Блакітная, далёкая Радзіма,
калісь — штодзённы хлеб,
а сяньня — толькі сон,
Мы вернемся, чакай,
мо хворымі, старымі,
а вернемся!
Так дай нам Кон!

### БЕЛАРУСІ

Ёсьць людзі, што ў Цябе і вераць,
і ня вераць,
якім Ты «сіняю вачэй яшчэ не расьцьвіла».
Іх лёс няласкавы і шлях імглісты й шэры...
Ці нам каменьмі ў сэрцы іх шпурляць?
Ды ёсьць і іншыя, якіх Ты вылюляла
найшчырэйшай лустай жытняю бязмала
да ўчора,
і што сяньня кажуць:
— «Кінь!
Якія мы Твае,
а Ты якая наша?
Цябе няма,
Цябе хтось выдумаў на сьмех!»
І вышчараюцца й клянуць Цябе,
а часам —
клыччом за горла...
Зрадзе-ж не сацьмець!
Даруй ім Краю наш, калі патрапіш,
хай слоў прабачаньня для іх няма:
увесь наш боль,
усё змаганьне наша
для іх — пад ногі кінены рызман.
Дзень прыйдзе —
Кон і сам іх, Маці, укарае,
прапаліць роспачай і целы й сэрц кару.
Для нас,
выгнаных сяньня з Краю, —
Была Ты,
ёсьць,
і будзеш,
Беларусь!

### УСКРЭСЬНІ!

Ён уваскрос,
Ён — дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіняй смузе над палямі
вісіць вясна...
Ён уваскрос.
Ускрос,
і зноў па Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Здымае з душ настылых вусьціш,
багаслаўляе соладзь кроз,
сяліб раськіданых прысады,
муры нязьлічаных вязьніц
і тых,
што пагублялі радасьць
па кроплі кропля й дзень па дні...
Ідзе Хрыстос... Над ім дугою

### II

Звычайным тропам для свайго, кагадзе апісанага сацыяльнага асяродзьдзя Ластоўскі «першыя пачаткі граматы дастаў дома», і зь імі ўжо падаўся ў народную школу блізкага ад ягонага роднага засьценку сяла Стары Пагост таго-ж Дзісьненскага павету («Хрэстаматыя» Дварчаніна, бал. 293). Тутака й праходзіла ня толькі пачатнае вучэньне, але й асноўнае ўзгадаваньне ягонае. «Гадаваўся я змалку часьцю ў ваколіцах, часьцю ў самой вёсцы Стары Пагост, а знача дзіцячыя гады жыў яе інтарэсамі, яе сьветаглядам і абычаямі», — сьцьвярджае ён сам у сваіх «Успамінах зь нядаўнай мінуўшчыні», прысьвячаных якраз гэтаму сялу Стары Погост (часапіс «Крывіч», № 10/2, ліпень-сьнежань 1925, бал. 86-91).

Фармаваньнем самых асноваў свае людзкое вудалі, што звычайна праходзіць у маленьсьцьве, Ластоўскі й абавязаны Старому Пагосту, ягоным жыцьцёвым абставінам, «інтарэсам, сьветагляду й абычаям». На першым месцы тут трэба адзначыць, як найбольш вызначальную ў сэньсе фармаваньня гэтае вудалі акалічнасьць, што ўсе гэныя «інтарэсы, сьветагляд і абычаі» Старога Пагосту характэрным чынам аценьваліся гістарычна-легендарнымі рэмісцэнцыямі, якія зьвязвалі із сваім сялом ягоныя жыхары. «Між пагашчанаў, — успамінае Ластоўскі — існавалі легенды аб слаўнай мінуўшчыне іх вёскі, якая быццам была калісь горадам, каторы меў многа цэркваў і княжае замчышча»; усё гэта, быццам-бы, сваім часам «правалілася ў скрозьдоньне». «Аб «праваленым», а паводля іншых вэрсіяў, «заварожаным» горадзе існуе на ўсім абшары, як доўга й шырока крыўская зямля, бесканечнае мноства легендаў і апавяданьняў, — адзначае Ластоўскі — але, мне здаецца, нідзе яны не апавядаюцца з такой бязьмежнай верай і рэальнасьцяй, як у Старым Пагосьце». І вось, на гэткіх, «такой бязмежнай верай і рэальнасьцяй» «пераказаных» легендах аб слаўнай мінуўшчыне» родных ваколіцаў найперш і гадаваўся малы Ластоўскі. Легенды-ж гэтыя разгортваліся цэлымі цыклямі, і з вобразам «праваленага» гораду — «Багоцьку» лучыўся ў іх поўны глыбокае нацыянальнае самабытнасьці вобраз «Белае Пані», аканаванае там на пакуту пад вартаю «чатырох чорных сабакаў зь вялізарнымі бліскучымі вачыма» (падобную легенду пасьлей так глыбака й мастацка рапспрацаваў у нашай літаратуры Максім Гарэцкі ў вапаваданьні «Лірныя Сьпевы»).

Ужо з чыста фармальнага боку гэтыя легенды й вобразы дзеілі на ўспрыемлівую дзіцячую фантазію, спрыяючы завойстранаму разьвіцьцю гэтае здольнасьці яшчэ ад малых год і ў Ластоўскім. «Я сам, — успамінае ён — наслухаўшыся апавяданьняў аб падземным горадзе й сьвята верачы ў іх, нераз пралежваў цэлымі гадзінамі, прытуліўшы вуха, да зямлі, і раз, заснуўшы, прысьніў такое дзіва, што прахапіўшыся, як няпрытомны, бег дамоў. А дома напужаў маю матулю сваім базьзьвязным апавяданьнем, перамешаным зь дзікой фантазіяй». Завойстранаму разьвіцьцю гэтае здольнасьці фантазіі, часам навет буйнай, «дзікой», апрача легендаў, спрыяла й тая агульная атмасфэра, якою дыхаў і той Стары Пагост і ўсё беларускае сяло тае пары наагул. «У гэтай атмасфэры голаду, недамаганьняў, заўсёднай фізычнай працы й нястачы ўмысловай, — зусім добра канстатуе Ластоўскі — фантазія завагняецца, і даволі самай лёгкай прычыны, каб мозаг выйшаў з раўнавагі й пайшоў торам гістэрыі й галюцынацыяў» (адзін зь перажытых ім самым у часе ягонага маленства ў Старым Пагосьце выпадкаў падобнае «масавае гістэрыі з галюцынацыямі» на груньце, як ён сам азначае, «агульнага нэрвовага зьнябыткаваньня», Ластоўскі падрабязна пераказвае ў тых-жа сваіх пагоскіх успамінах).

Гадаваньне ў гэткай атмасфэры падсычанай гістарычнымі рэмінсцэнцыямі й «завогневанай» агульнымі абставінамі фізычнага й нэрвовага зьнябыткаваньня фантазіі, даганянай усім гэтым аж да хваравітых памераў «масавых гістэрыяў з галюцынацыямі», і залажыла ў вудалі Ластоўкага фармальныя асновы да разьвіцьця здольнасьці творчага ўяўленьня, гэтае важнае для сфармаваньня і дзеяча, і навучонага ды найбольш — пісьменьніка-мастака, якім ён і выявіўся пасьлей. Ды, пэўна-ж, і менш, калі ня больш важным для сфармаваньня гэтага тыпу аказваўся і ўжо не фармальны, а ідэйны мамэнт таго піетэту да роднае «слаўнае мінуўшчыны», што разам з гэтым прышчапляўся тым-жа гадаваньнем. Мамэнт гэты вызначаў галоўную сьціраванасьць самога зьместу зацікаўленьняў Ластоўскага ўжо змалку як па агульнай лініі нацыянальнага, роднага, беларускага (ці, як пасьлей асабліва залюбіў казаць сам ён — крыўскага), гэтак і па больш канкрэтнай лініі гістарычнага, па лініі зацікаўленасьці роднай гісторыяй і цэлым камплексам зьвязаных зь ёй галінаў, у тым ліку, ды не на апошнім месцы, і галіной археалёгіі, цікавасьць да якой упаасобку пабуджалі тыя, заснаваныя на легендарных дадзеных, але часам вельмі рэальныя вынікамі шуканьні «закапаных скарбаў», якімі так шмат і ахвоча займаліся ў Пагосьце, паводля ўсё тых-жа пагоскіх успамінаў Ластоўскага.

Апрача гэтых, найбольш вызначальных мамэнтаў, Стара-Пагоскае жыцьцё-быцьцё адзначалася й яшчэ некаторымі характэрнымі рысамі, што таксама ўзьдзеялі так ці накш на фармаваньне вудалі Ластоўскага. Найперш тутака трэба адзначыць адну такую рысу, цесна зьвязаную з успомненым ужо вышэй агульным зьнябыткаваньнем пагоскіх, дый наагул усіх наскіх людзёў таго часу. «Відочна, — піша аб гэтым мамэньце ў сваіх успамінах Ластоўскі — гэным усеагульным аслабленьнем нэрваў трэба тлумачыць вялікую склоннасьць жанок да сьлёзаў. Палавіну свайго жыцьця жанкі плакалі ня толькі з прычынаў, годных плачу, але й з прычынаў, нічога ня вартых, як прыкладам, калі ўпадзе прыпадкам лыжка на памост, узьляціць курыца на лаву й г. д. У вацэне праяваў бягучага жыцьця вяскоўцамі, асабліва жанкамі, рэдка праяўлялася памяркоўнасьць і развага: больш-менш значнае здарэньне выклікала крайнасьці. Калі курыца прыпадкам забралася на ляху з цыбуляй, жанка ўжо галосіць і прычытуе, што курыца агаладзіла сям'ю. Лёгкае зачадзеньне, ці недамаганьне праводзілася стогнамі й прычытамі ў чаканьні нямінучай сьмерці й асірочаньня дзяцей. Затое запраўды вялікае калецтва, пажар, цяжкую хваробу — умелі пераносіць зь дзіўным спакоем».

Вельмі блізка да гэтае рысы, лежачы зь ёй у ваднэй і тэй-жа роўніцы, падыходзіла й другая, таксама дужа трапна падгледжаная Ластоўскім: «У стасунках паміж сабою сяляне кажную праяву свайго дабрабыту, разумеецца, дабрабыту з пункту гледжаньня галоднае вёскі, стараліся скрыць. Першай тэмай размоваў пры сустрэчы гаспадыняў паміж сабой было сталае нараканьне на малы ўдой каровы, на ненясушчасьць курэй, на няўдачу сьпечанага хлеба, на благія адношаньні мужа, сьвякроўкі й да г. п. Калі селянін, акром прыродных хвалуноў, хваліўся чым, то гэта мела якуюколечы надуманую мэту. Стала й звычайна ўсе жаліліся слушна й няслушна на ўсіх і ўсё: гэта было зялезнае правіла вясковага этыкету. Магчыма, што гэтае правіла было ўзгадаванае даўгалетняй прыгоннай няволяй, непасільнымі паборамі зь сялянства, але яно і ў пазьнейшых пакаленьнях, было выдатнай, кідкой у вочы рысай». Абедзьве гэтыя, цесна міжсобку зьвязаныя рысы — лёгкасьць на сьлёзы і, казаў той, «тактычнае» самапрыбядненьне ды нараканьне, характэрныя, пэўна-ж, не аднаму толькі Пагосту, але й усяму нашаму сялу тых часоў, перайшлі пасьля і ў нашую адраджэнскую, «нашаніўскую» літаратуру, паклаўшы свой моцны адбітак асабліва на ейныя першыя пачаткі. Адылі, назіраньне гэтых рысаў ужо змалку, як відаць, перасьцерагло Ластоўскага ад асвойтаньня іх ім самым і навет настроіла крытычна ў гэтым дачыненьні, так што якраз ён, як гэта будзе паказана далей на сваім месцы, стаўся першым, хто ўзьняў пратэст супраць гэткага агульнага тону прыбядненьня ў нашаніўсьцьве, прычынўшыся да перагляду сваіх пазыцыяў з гэтага боку выдатнейшымі нашаніўцамі й вызваленьня іх ад тае «тактычнае» сьлязьлівасьці й наракальнасьці.

Нарэшце, яшчэ адзін мамэнт жыцьця Старога Пагосту моцна ўзьдзеіў на фармаваньне псыхікі Ластоўскага — гэта мамэнт міжнацыянальных дачыненьняў, дачыненьняў пагашчанаў-Беларусаў да некаторых сваіх суседзяў іншае нацыянальнасьці, а найперш і галоўна — да Расейцаў. «Адношаньне вяскоўцаў да акалічных Маскалёў (так называлі старавераў, паселеных тут пасьля 1863 году) было няпрыязным, — успамінае Ластоўскі. — Сяляне ўнікалі іх, як толькі маглі. У гэтым здарэньні прычына была ня веравызнаўчая, а розны характар і псыхіка. У дадатку, Маскалі, як упрывілеяваны ў краі элемэнт, трымалі сябе ў стасунку да мясцовага крыўскага сялянства зачэпна-вызываюча і за дадзены ім адпор імсьцілі нашым сялянам калі ня бойкай, то абвінавачаньнямі палітычнага характару, якія зазвычай пасьвятчалі дружна ўсёй свёй каленіяй. Дзякуючы гэтаму, стасункі з Маскалямі былі ўвесь час напружанымі». Гэтак і ў Ластоўскім ужо змалку ўзгадоўвалася тое антымаскоўства, якое пасьля сталася гэткай характэрнай і неадменнай ды нязьменнай асаблівасьцяй усяе ягонае вудалі, усяе ягонае дзейнасьці. У сувязі з гэтым трэба толькі зацеміць, што інакшае дачыненьне пагашчанаў да іншых нацыянальнасьцяў узгадавала ў Ластоўскім і зусім іншае настаўленьне да іхных прадстаўнікоў у ягонай пасьлейшай дзейнасьці. Гэтак, прыкладам, у дачыненьні да Жыдоў: калі, паводля Ластоўскага, пагашчанін-Беларус «цаніў у Жыдзе яго практычнасьць і ўменьне прыспасобіцца да жыцьця, што называў «хітрасьцяй», ішоў да яго раіцца ў трудным палажэньні і меў больш веры да яго радаў, чым да рады інтэлігента-хрысьціяніна... расавай і наагул ненавісьці ў стасунку між Жыдамі й сялянамі ня было, існаваў толькі глыбокі веравызнаўчы падзел», дык Ластоўскі ўспрыняў асновы падобнага дачыненьня да жыдоўскае нацыі і ў пасьлейшай сваёй дзейнасьці ня толькі ня выяўляў ніколі хоць-якога сьценю антысэмітызму, але наадварот, падтрымваў кантакты з Жыдамі, што працавалі над нацыянальным адраджэньнем свайго народу, і нераз супрацоўнічаў зь імі на гэтым груньце, што таксама будзе далей адзначана намі.

Гэтак узгадавальныя ўплывы Старога Пагосту залажылі ў Ластоўскім асновы да разьвіцьця тых здольнасьцяў і сьціраванасьцяў, што характэрна, ато й бліскуча выявіліся пасьля ў ягонай дзейнасьці беларускага адраджэньня, навучонага й пісьменьніка.

(Далей будзе)

ўстае густы блакіт нябёс,
а ногі ў ранах незагойных
кладуць сьляды на шэрань рос . . .
Дык прыпадзем
і вусны спалім
на тых сьлядох, што Бог-Хрыстос,
губляе, моўчкі йдучы ў далеч,
бо Ён ускрос,
Ён уваскрос!
Няхай над родным папялішчам
усьцяж галосіць нема лёс,
няхай крываваяць нас і нішчаць, —
ускрэсьне Край,
бо й Ён ускрос!
Мацней за сьмерць,
за ўсё,
каханьне
зямлі, дзе ад дзіцяці ўзрос . . .
Устань-жа,
ўстань,
ускрэсьні сяньня
й Ты, Маці,
як ускрос Хрыстос!

### ЁН ПРЫЙДЗЕ!

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён ня прыйсьці ня можа!
Ён прыйдзе
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, разьмяце,
раскідае, зьніштожыць
усё, што нам шляхі дахаты замяло!
Ці чуеце? Аб ім
шасьціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві,
— а Слова стане Целам
і ўжо ніколі больш ня ўстане Чорны Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы
апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай, —
трывайма!
Ён ідзе —
Вялікі Сакавік!
Ідзе . . .
й пад ногі рунь
яму кладзецца, таюць
сьнягі, на паплавох зяленіцца трава . . .
Радзіма!
Беларусь!
Крывіччына Сьвятая!
багаславі нас жыць,
і веру захаваць!

**Натальля Арсеньнева**

---

**АЛЕСЬ САЛАВЕЙ**

### НАД СЛУЦКАМ ДНЕЕ

Над Слуцкам днее. Гасьне ноч на зорах.
І зь першым сьнегам вецер дзьме калючы.
Прастуе ўперад рыцар няўмiручы,
за ім — нядрэмнасьць вояў у дазорах.

Ён бачыць золак, чуе кажны шорах,
вітае ў думках сон прабудны Случы . . .
Абшар бязьмежны і прастор нясплючы,
у вас ня мае месца хіжы вораг.

Агні жывыя, іскры лістападу,
узьлётнасьць ваша не зазнала спаду.
За вас у муках рыцарскай дарогай

крывёй сьцякалі, гінулі і мерлі,
каб вас навекі злыбеды ня сьцерлі,
каб вы сьвяцілі прыйшлай перамогай.

### НЯ СЬПІШ СПАКОЙНА

Ня сьпіш спакойна, мой далёкі браце,
як сполах ночаў, дні твае насталі.
Пад звон зялеза і пад скрыгат сталі
імкненьняў пошуг прападае ў страце.

Бяз спыну ў доме, без начлегу ў хаце
капаеш долы, засяваеш далі.
Пад імі злыдні праўду пахавалі —
куеш навекі ім саваё праклядьце.

Непаканаы жорсткаю пакутай,
перамагаеш зьмея мукі лютай.
І шлях паўторны да жыцьця зь цярпеньня

няволі злуду паліць пярунамі.
З табой, зы мною — крочыць поплеч з намі
паўтору-кругу зьмена-пакаленьне.

### НА ЦІХІ БЕРАГ

На ціхі бераг ступіш асьцярожна,
каб не нарушыць даўнага спакою.
Чароды-ж думаў хлынуць талакою —
за далягляды палятуць трывожна.

То-ж бо ў вaддалях жыць ім толькі можна,
дзе круг жыцьцёвы вірыцца ракою,
дзе над палянай, сонечнай лукою
нябёсаў веліч зіхаціць пабожна.

Дзень учарашні кануў за марамі.
Яго хацеў-бы ацьвяціць дарамі —
пярлістым скарбам знойдзенае волі.

Калі-ж сустрэне заўтрашняе зь сяньня,
збудзіўшы ў росах раньняе сьвітаньне —
ён не адыйдзе ў незварот ніколі.

### ОРДЭНАНОСЦАМ

Вам прышпілілі ордэн той-жа самы:
пышлівы гонар адмысловым катам.
Нясе нядрэмнасьць варту вашым хатам,
для сьмерцяў новых выкапаўшы ямы.

На ўяўнай цноце нат ня змыты плямы
крыві пралітай закаваным братам.
Ну што-ж, тварэце неўгамонным сьвятам
і т а т у — бацьку гучныя рэклямы!

Рука у путах — «Слава!» — піша — «Слава!»
А розум цьвердзіць: — «Згінь, прысуд кры-
Не, гэна бляшка таннае мэдалі [вавы!»

душы ня сьмеціць, з думкай не начуе,
і вусны шэпчуць — толькі Бог вас чуе —
збавеньня словы — іх вы не прадалі.

---

**РЫГОР КРУШЫНА**

## Выбраныя вершы

### МАІМ БРАТОМ

Як з дрэва цьвет, зляесны лёс
вас разагнаў віхром па сьвеце
і кажны ў сьвет свой крык панёс,
радзіму маючы наўвеце.

Мае выгнаныя браты
аж за хрыбтамі Гімалаю!
Я вам пішу свае лісты
бяз маркі — марай дасылаю.

Спляліся нэрвамі радкі,
пяюць аб страшна перажытым:
усюды чорныя грудкі —
агонь прайшоў, як град над жытам.

Вядзе нядоля шлях віты,
бяздомных гоніць па чужыне.
І я і ўсе мае браты
жывём на лепшым успаміне.

Як мы, ступіўшы за парог,
сямейны гоман чулі ў хаце,
як на Вялікадні пірог
між нас, дзяцей, дзяліла Маці.

А сяньня думкі паплылі
з журбой балючай, нявыгойнай.
Мы — на вандроўным караблі,
ня маем прыстані спакойнай.

Мы ўсе пазналі жах і сум.
Рыпіць жыцьцё ў жабрачым стане.
Сьціхае ўсё: ў пяскох самум
і буры-штормы ў вакіяне.

І ў белых тундрах маразы,
і ў горах громы землятруса.
А шум бярозы і лазы
ня моўкне ў сэрцы Беларуса.

Штогод расьце, гучыць мацней, —
шлях да Радзімы пракладае . . .
Сьмяяцца й плакаць, як даўней,
душа трывожная жадае.

### КРУШЫНА

Расла крушына на Палесьсі.
Зьвінеў і цьвіў хмызьняк густы!
Азёрны шум блакітнай плесі
прыносіў вецер праз кусты.
І войстры пах травы і цьвілі,
і воўчых ягад горкі сок
паветра вогкае паілі,
бы ў навальніцу дождж пясок.
Прырода, шчодрая на ласку,
вітала птушкай песьняй бор,
які складаў лясную казку
і разьвінаў жыцьця прастор.
Дый раптам сьціхла ўсё жывое.
Прышоў нядобры чалавек,
ён залатыя спляжыў хвоі,
дубы карэньністыя сьсек.
Ён выграў дзікую крушыну
зь лясной глушы і ў сад прынёс.
Няхай расьце там каля тыну,
яе інакшай зробіць лёс.
Ажно дарэмныя надзеі!
На дзікі куст не пазірай!
Зямля чужая не сагрэе
таго, хто любіць родны край.
Крушыне лес далёкі сьніцца,
нядоляй нудзіцца сваёй.
І сьпеюць воўчыя чарніцы
яшчэ гарчэйшыя на ёй.

**4. 2. 45**

### ТЫ СЬПЯВАЛА МНЕ

Ты сьпявала мне «Перапёлачку».
На ўспамін дала кветку-зёлачку.

За гады яна сьцярушылася,
толькі песенька не забылася.

На чужыне мне, як пачуецца,
аж да сьлёз магу я рашчуліцца.

Кінуў родны край і каханую,
боль заходлівы рвецца ранаю . . .

Каб-жа ведала маю долечку,
ці сьпявала-б ты «Перапёлачку»?

### У МІЖЗОР'Е

Адвячоркам я выйду за весьніцы
насустрэчу табе і вясьне.
Будзе мара блакітная песьціцца
у пагдядзе тваім для мяне.
Прытулю цябе, мілая, горача.
І на ставе, пад ніцай вярбой,
каб пазбыцца жыцьцёвае горычы,
я ўсю ноч прасьпяваю з табой.
Мы—упрочкі ад явы. Ня змрочыцца
і ня зьгіне імпэт малады.
У міжзор'е далёкае хочацца,
дзе няма ні вайны, ні бяды.
Мы абое, галубка дрыжоная,
напляцем лятуценьняў вянкі.
Ноч гэтая прыйдзе бяссонная,
прагльне і прасьцяг і вякі.
Дробна зоры на небе накрышацца,
замігцеюць і ў цёмнай вадзе.
Возьмем човен, і ён закалышацца,
паплыве, у сусьвет павядзе.
Прытулю цябе, мілая, горача,
станеш ружай пунсовай цьвісьці.
Будзе Муза, са мною гаворачы,
працінаць маладосьць да касьці.
Твае вусны, як цукяр у ягадзе,
будуць таяць, запальваць мяне . . .
Адчуваю спатканьне я загадзя
і каханьне між зор на чаўне.

**10. 4. 44**

---

**ВЛАСТ (ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ)** 2

## Выбраныя творы

### БЯЗДОННАЕ БАГАЦЬЦЕ
**Легенда**

У Тураве жыў калісь князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры, дык і людзей каля сябе зьбіраў усё разумных ды мудрых.

Раз князь з гасьцямі сваімі паехаў на ўловы біць тураў і дзікіх вепраў. Многа было ўжо набіта ўсялякай дзічыны і госьці хацелі прыпыніць лавецтва, але Яраслаў, якраз у той мамэнт, калі хацеў даць загад трубіць на збор, убачыў аграмаднага старога тура; забыўшыся на ўтому і гасьцей, пагнаўся ён за ім. Некалькі гартоўных княжых стрэлаў упіліся ўжо ў цела тура, але зьвер з падвойнай сілай уцякаў ад лаўца. Тады князь пачаў паганяць свайго каня, каб насьцігнуць тура. Раптам тур спыніўся і абярнуўся ў старану князя. Конь, з разгону, наскочыў на тура і зваліўся прабіты рагамі, прыціскаючы сабой князя. Яшчэ мамэнт і князь паплаціўся-б жыцьцём на мейсцы. Але на гэтую хвіліну падсьпеў загоншчык Ранцэвіч; ён зьняў зь сябе сьвітку і кінуў яе на вочы туру, ды хутка нажом ударыў зьвера ў самае сэрца. Тур няжывы рынуў на зямлю. Князь выкарабкаўся з-пад каня, і, дзякуючы загоншчыку, сказаў, каб той прышоў у вабоз да князя па нагароду.

Калі загоншчык прышоў у князяў абоз, Яраслаў паставіў перад ім скрынку напоўненую золатам і сказаў:

— Бачыш, колькі тут золата, але жыцьцё даражэй золата; бяры колькі хочаш.

Загоншчык быў чалавек мудры. Ён узяў пасашок, разгарнуў чырвонцы так, каб пасашок апёрся аб дно скрынкі і сказаў:

— Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё-ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэтае тваё золатое багацьце ня вечнае; калі-небудзь прыйдзе канец яму. Дый золата больш патрэбна князю, як простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсьці ня мог.

Князь задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацьця, то і тады дно яму знойдзеш.

Засьмяяўся загоншчык і кажа:

— Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацьце.

І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і блізка ўвесь усунуў у зямлю.

— Вось, тваё, княжа, багацьце, у якім дна няма; яно ратару больш вартае, чым тыя чырвонцы. Грошы могуць украсьці, а гэтага ніхто не ўкрадзе.

Засьмяяўся князь, падабалася яму мудрасьць загоншчыка і кажа:

— Праўду кажаш, дам табе зямлі па дзесятае пакаленьне.

І, увайшоўшы ў шатро, напісаў князь Яраслаў дарчую грамату мудраму загоншчыку Ранцэвічу на ўсю ваколіцу Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у вёсцы Вялемічы жывуць Ранцэвічы, і, у вялікай пашане, у цыновай трубцы, перахоўваюць, з роду ў род, дарчую грамату князя Яраслава, а паказваючы яе апавядаюць легенду аб сваім мудрым прашчуру.

1918

### ПРЫПОВЕСЬЦЬ
### АБ СТАРЫМ МУЖУ І ГОЖАЙ ДЗЕВЕ

Быў муж яры, векам стары, барадой сівы, косьцю харобр, сэрцам гарач. І была дзева малада, гожа, як у садзе ружа. Стаў стары муж сватацца да гожай, маладой дзеве кажучы:

— Пайдзі за мяне, дзевухна, замуж, — будзеш мець слуг і служак многа і коней і адзеньня дарагога; будзеш у саетах хадзіць і піць і есьць і весяліцца.

І сказала дзева старому мужу:

— О, неразумны стары дзеду, сівабароды. Калі мяне, маладу дзеву, возьмеш замуж за сябе, жывату майму будзе няўцеха; сэрца тваё амягне, вочы памеркнуць; сьцягны аслабеюць, косьці ссохнуць, сівізна пажаўцее і нягодзен станеш ты маладосьці маёй. Пры табе старым я сама зашчырэю, а сэрцам разгарэю і, ад распаленьня натуры, шукаць іму сабе ўцехі любіцельнай: маладога юнака, добрага малайца і ташнату маю разважзіць стану зь ім, а не з табой старым смэрдам.

І адказаў стары муж дзеве:

— Нашто, дзевухна, жаросткімі словамі мяне, як дрэва лістам укрыла? У дому ў мяне паняй станеш, усяку раскошу і выгоду мець будзеш. Сядзеш, мая міла, у мураваным палацы на многацэнных кілімах, прыбяру цябе, як чысту краску ў полі, як паву птаху дзіўную, як раку Бярозу пры дуброве, між горкамі. Спачываць у мяне будзеш на пярынах двойчатых, пад чырвонымі кітайкамі. Піць і есьць са мной будзеш многаякія асалодныя стравы. А схочаш весяліцца — зладжу банкет і загадаю ўсяку пацеху іграці і гусельнікам, і трубнікам, і гожым ладам дзяўчатам прад табой танок вясьці карагодлівы, і пачну цябе цешыць і ня дам жывату твайму ташніцца па ўсе дні, а ня схочаш воляй пайсьці за мяне, бацьку твайго і маці тваю абдарую дарамі многацэннымі і яны цябе прыняволяць тады.

І сказала яму дзева:

— А калі адалееш айца майго і маці маю многацэннымі дарамі і выдадуць мяне прымусам, я тады буду ўсё чыніць не па твайму хаценьню, а супраць тваёй волі. Слоў тваіх не паслухаю і вяленьня твайго ня выканаю: калі скажаш рабіць кісла — зраблю прэсна, а мяккага табе хлеба ў мяне ня пытаць, будзеш, стары смэрдзе, скарынкі глыдаць. Затое добраму малайцу, свайму параднiку, мяккія, крупчатыя пірагі пастаўлю ды дулі на талерку, ды віно ў кубку, а зьверх таго яму лебяжа пярынка пад бок, чыжовая падушка пад голаў, саболяе акрывала паверх, ды я, сама малада, поплеч. А табе, старому смэрду, спаць у мяне на памосьце, у кутніку. Стаяць я буду прад мілым малойцам з трывогай ды з боязьню, каб мяне мілы любіў. Мамкі і нянькі будуць мілага на руках насіць, а табе, старому смэрду, ванючаму духу, пабярэшчанай хары, татарскай патыліцы, вісільніцкай шыі, сомавай губе, ракавым вачам, апухлым пятам, сіняму бруху, зрэбнай барадзе, жоўтай сівізьне, сядзець на печы; каб у цябе, смэрда, у шыі скрыпела, у горле хрыпела! Каб жыў ты, што жук у балоце, што жаўна ў дзюпле, што чарвяк за карой, што сьвярчок за печчу.

І кажа стары муж:

— Калі ты, дзевухна, за мной будзеш, ты такой ня будзеш.

Ды пачаў стары муж сватацца; палавіну маетнасьці прасьвістаў, пакуль за сябе маладу дзеву ўзяў.

І сталася малада, гожа жонка старому — дзенная і начная турбота ды касьцям сухота. Ад людзей стары муж уцякае, што маладу жонку мае, у бяседзе ня сядзе, да людзей ня прыстане, на кажнага маладога крыва гляне, як ліхі сабака з-пад лаўкі; не гаворыць, дзьмецца . . . Сам сабе абрыд стары смэрд і, на трэці год, павесіўся.

А маладая дзева вышла замуж за добрага малайца, праклінаючы старога, мілуючы любага.

Старыя мужы! Да вас мова: у спакоі век жывеце, маладых жанок не бярэце. Гэтай прыповесьці канец: дзевам гожым чэсьць і слава, а мне каравай сала.

## НЕАБЫЯКАВЫ

Вечар.
З марамі палётнымі
адпачыць я лёг.
Сьнег бялюткімі палотнамі
сьцелецца ў палёх.

Сьветлы сон. Зь нязгаснай памяці
родны край паўстаў:
Сіні лес у срэбнай замеці,
зьледзянелы стаў.

На дварэ вядзе мяцеліца
сьнежны карагод.
У хляве карова целіцца —
шчасьце ў Новы Год.

Грае сонечна-праменнае
ў хаце хараство.
Маці цэдзіць белапеннае
цёплае піто.

Кажа дзецям: — Не бяздомныя...
Ня сіроткі, не!
Ежце смачнае, скаромнае,
і дзякуйце мне.

Ля вядра з вадою годзі вам
боўтаць чарпаком.
Падсілкуйцеся малодзівам —
сытным малаком.

Дзеці ў хаце за вячэраю.
Бесклапотны сьмех,
расплылося злое, шэрае...
Белы ў вокнах сьнег.

Завіруха плача ў коміне.
Я прачнуўся... Зноў
сэрца ў болеснай аскоміне
ад тугі і сноў.

Ноч, — як джунглі непралазныя.
Дождж. Хлюпота. Золь.
На чужыне! — горка сказана.
Нясуцішны боль.

...Дай-жа Бог дарогу роўную
на жарсьцьве нягод.
Паднімаю чарку поўную
за шчасьлівы год.

Ён ідзе, неабыякавы,
штосьці ўтойна ў ім.
Мо' загіне дзень заплаканы
у жыцьці маім.

1953

## ЛЕБЕДЗЬ ЧОРНАЯ

Расьцілалася
прадвячорная імгла.
Паміж парасьцяў
лебедзь чорная плыла,
лебедзь чорная
зь перасечаным крылом...
Засмучоная
мая дзеўчына суздром,
каля сажалкі
поруч стоючы са мной,
мне заўважыла
нейк надоечы:
— Друг мой!
Лебедзь чорная —
гэта-ж нашае жыцьцё.
Ў ноч бяззорную
мы — апаўшае лісьцё.
Адарваныя
ад Палесься мы зусім,
наш каханы край
песьцім песьнямі і сьнім.
Сны зьнібелыя...
з вогкай цемрадзі
праз муць.
Ці ня белыя
гусі-лебедзі плывуць?
З ласкай сонечнай,
з добрай весткаю, бадай,
на старonачку,
на Палескую —
ў наш край.
Слоўца ветлае
зь белай гусяю
пашлём.
Маем сьветлае:
Беларусяю
жывём.
. . . . . . .
У сіняй далечы
прадвячорная імгла,
паміраючы
лебедзь чорная лягла
ў твань зялёную
пад расквечаным кустом,
лебедзь чорная
зь перасечаным крылом.

## ЗАЛОМ

Шчасьлівыя спатканьні
з табой пад вязам ветлівым,
і частыя блуканьні
на полі жоўтацьветлівым.

І белыя рамонкі,
і васількі блакітныя,
і нашыя гамонкі —
дагэтуль незабытныя.

Убачыць давялося
у жыце жмут завязаны
зялёнага калосься,
ў якім закляцьце сказана.

Я засьцярог:
— Заломы!
Ня руш, мая каханая!
У вузялку саломы —
бяда зачараваная.

Але-ж прайшла навала,
і сіла чараў зьгінула.
Ты каласы сарвала,
мне ў твар задорна кінула.

«Ня веру казкам гэтым!» —
сказала ты з усьмешкаю,
і ў ростані з паэтам
пайшла самотнай сьцежкаю.

Было, здаецца, ціха...
А ня мінула й месяца —
ідзе з вайною ліха,
ў крыві падзеі месяцца.

На горад і на вёску
цяжкое гора падае.
І дзень, як сьвечка з воску,
гарыць і нас ня радуе.

Спакою мы ня бачым —
спазналіся з пакутаю.
А ты жыцьцём сабачым
без ланцуга закутая.

Чужынцы з ласкай лезьлі,
твой двор стаяў засьмечаны...
Цябе пасьля завезьлі
ў разваліны Нямеччыны.

Лажыцца зморай праца
на рукі загрубелыя.
Табе рамонкі сьняцца —
радзімы краскі белыя.

Калісьці пела ў полі,
вясной закалыханая.
Ня думала ніколі,
што будзеш ты выгнаная,

бяз долі і бяз хаты
і пад прынукай ворага.
Ці помніш колас кляты?
Ты заплаціла дорага!

Хай зло не ад залому,
хай выпадкова сталася.
Цяпер, калі ня ў дому —
ўсё роднае згадалася.

Згадаліся ў пашане:
наш край, вайной абкрадзены,
і шчырае каханьне,
і звычай нашых прадзедаў.

1944

## ПАЯСОК

Мне случанка падарыла
найпрыгожы паясок.
Пачуцьцёвай процьму сілы
выбраў вытканы кусок.

Зацьвілі на кажнай нітцы
мары ткальлі маладой.
Ёй вузор пазорны сьніцца,
шоўк ільсьніцца пад рукой.

І мітусяцца ў разбродку
зоркі ў зыркім паяску,
і праменьні пасяродку
прабягаюць па шаўку.

Краскі, крыжыкі, шмат рысак
чырванеюць на баках.
Палымнеець ясны прысак —
беларускі даўні бог.

Сыплець іскрамі Ярыла
зь ніцяў золата пясок.
Гэты слаўны паясок
мне случанка падарыла.

## ЗЛОЕ ШЧАСЬЦЕ

Ямаю злое шчасьце:
любіць і боль цярпнець,
падняцца, нізка ўпасьці,
зноў узьляцець і пець.

І песьнямі сваімі
спакой душы знайсьці,
бяз крыку з простым імем
да хараства ісьці.

Гарэць... ахвяры класьці,
і ўсёй істотай пець.
Такое злое шчасьце
паэт павінен мець.

## СЬНЯЖЫНКА

Адцьвіла вяргіня белая...
Мне «бывай» сказала ты.
Зьнікла радасьць недасьпелая
ў дзень асеньні, залаты.

Я сваю душу трывожную
суцішаў, як быў з табой.
Ад цябе пайшоў, прыгожая,
зь незатоенай журбой.

Ідучы ў жыцьцё сьцяжынкаю,
ні на што не наракаў...
Я над першаю сьняжынкаю,
што зьляцела на рукаў

загарэўся успамінамі:
саматканы твой вузор
тонка сплецены ільдзінамі
у карунках дробных зор.

У цябе каўнерык вязаны
акурат, як сьнегу брыж...
Можа штосьці недасказана,
дык цяпер дагаварыш.

## ПАПАРАЦІ

Прабягае дзе-ні-дзе
злосны вецер за аселіцаю.
І зімы апошні дзень
апяваецца мяцеліцаю.

І сівы мароз-мастак
парасклаў на шыбах папараці.
Кветкі сьнежныя, аднак,
заўтра кроплямі закапаеце.

Лёгка дыхае вясна
над сьнягамі расьцярушанымі.
Я самотна ля акна
сьмягну думкамі узрушанымі.

Незабыўныя гады,
пылам замсты незамеценыя.
Хлопца вабілі тады
косы русыя, заплеценыя.

З тэй дзяўчынай часта я
пеў вясьнянкі пад алешынаю.
Мне здавалася, мая
доля зь нейкім зельлем зьмешаная.

Дзіўны шэпат у лісьці,
а я з мараю нязьдзейсьненаю:
як у шчасьці узрасьці
і цьвісьці вясною песеннаю?

Як ад гора уцячы?
Капцюрамі ліха драпаецца.
На Купальлі уначы
мы шукалі кветку папараці.

Аджа кветкі не знайшлі,
толькі морак плыў над парасьцямі.
Маладосьць мы перайшлі,
бачым поступ блізкай старасьці мы.

Розных думак рой імкне.
Вунь жаданая, расквечаная
серабрыцца на акне,
ды цяплом амаль зьнявечаная.

Клаў мароз на шыбы вас
у сьпляценьні хітрым, папараці!
Вам трываць нядоўгі час —
заўтра
кроплямі
закапеце.

## МРОІ

Я хвалююся. Песьняй узьняты.
Дух крылаты у далеч імкне
на знаёмую сьцежку да хаты,
дзе галубка ў вясёлым акне.

Дзе пышнелі ў гародчыку астры
і сама ты між красак цьвіла.
Добрым часам ня ведала кайстры,
па руінах зь бядой ня ішла.

Ты калісьці сьпявала вясьнянкі,
і нявінная радасьць ўва ўсім,
як віно зь перапоўненай шклянкі,
разьлівалася сьмехам тваім.

А цяпер ты прыбіта жальбою
і чакаеш на лепшыя дні.
Ці адна? Я таксама з табою.
Я запальваю ў словах агні.

Толькі ў гэтым уцехі шукаю,
на плытох лятуценьняў плыву.
Неўгамонная доля цяжкая
ускружыла маю галаву.

Набягаюць кіпучай валвою
сны і мроі. І гіне ціша.
І душа не знаходзіць спакою,
вырываецца зь цела душа.

І ляціць да цябе, да каханай,
выпрадаючы кужаль надзей:
можа песьняй апошняй паўстану
я з тваіх набалелых грудзей.

**Рыгор Крушына**

---

## КНЯЗЬ БАРЫС І ЧОРТ
### Легенда

Князь Барыс мураваў у Полацку царкву і, ну, ведама, — гэткая будыніна! — запасынуўся і задаўжаўся кругом. Няма ўжо больш дзе пазычаць! Дык пайшоў, урэшце, да чорта і папрасіў у яго грошы, кажучы, што на вайну патрэбна. На нішто добрае чорт, ведама, ня дасьць, але на вайну — пазычыў.

Мінуў год, другі, дзесяты. Барыс не аддае чорту грошы. Здакучыла чорту хадзіць; урэшце, ідзе ён да свайго старшога, гэтак сама чорта, радзіцца, што рабіць?

— Што-ж, — кажа старшы чорт, — дагэтуль ён хітрэй за цябе: бо ад чорта грошы ўзяў ды Богу аддаў і ніяк ты зь яго не спагоніш! Хіба ён сам згодзіцца на загадкі: ты яму загадай тры загадкі, калі ён адгадае, дык яго грошы, а не адгадае — бяры яго сюды, то мы тут яму пакажам!

Прышоў чорт да князя пад вакно, угаварыўся аб загадкі, усё як яму старшы казаў.

— Добра, — кажа князь, — загадывай!

— Што ў двох? — загадаў чорт.

— Дарога карацей, — адказвае князь.

— Што ў трох? —

— Малацiць лягчэй.

— У чатырох? — пытае зьбянтэжаны чорт.

— Ці чэрці-б у цябе грошы прасілі, каб усе чатыркам малацілі!

Тут чорт і ўцёк, бо князь згадаў усе яго загадкі.

## ЛІХАЯ БАБА

Быў селянін і меў жонку: так то, паглядзеўшы, і нішто баба, але ліхая, што ратунку няма. Цярпеў, цярпеў мужык, а ўрэшце надумаў даць навуку бабе, і, вось, гараўшы ў полі, вырэзаў добры дубец і чакае, калі яна есьці яму прынясе. Ажно, бачыць, і баба ідзе. Ідзе ды на ўсё поле галёкае: лаіць мужыка, на чым сьвет стаіць. Прынесла, паставіла і, пакуль дзед дабраўся адлупцаваць, яна, на злосьць яму скочыла зь берагу ў амут і ўтапілася.

— Ну і добра, — думае сабе дзед, адным ліхам меней будзе на сьвеце, і не пашоў выцягаць бабу.

Мінуў год. Узноў, вясной, гарэ той селянін на тым самым палетку, каля ракі. І думае сабе: хоць яна і ліхая баба была, але ўсё-ж такі шкада, што ў амуце тады ўтапілася. Дай, думае, схаджу паўзіраюся хоць на той амут, дзе яна, бедная, Богу душу аддала. І, так сам у сабе разважаючы, падыходзіць да таго мейсца, куды год таму баба скочыла. Ажно чуе, што нехтась такі ў амуце плача і стогне.

— Няйначай баба жыва яшчэ, — падумаў дзед і, чым барджэй пабег па лейцы. Рад у душы дзед, што-ткі баба жыва. — Пэўне-ж яна цяпер і такой ліхой ужо ня будзе...

Прынёс лейцы, закінуў у ваду і чуе, што нехта торгае. Ад радасьці і сілаў селяніну прыбыло, цягне, сьпяшаецца... Аж, выцягнуўшы, глядзіць, што гэта зусім не ягоная баба, а самы існы чорт. А той, бух! на калені перад дзедам і давай дзякаваць, што выратаваў.

— Ад каго я цябе, чорта, выратаваў?

— Ад тваёй-жа бабы: як трапіла яна, год так таму назад, у мой ціхі амут, то ў пекла яго абярнула і мяне нават замучыла!

Пачуўшы гэта, пабаяўся дзед другі раз закідаць лейцы ў амут. А з чортам дык і нішто: падружыўся дзед і доўгі час разам поле гаралі, пняўё карчавалі і сварыцца нават не сварыліся.

## ПАД СТАРАСЬЦЬ АДГУКНЕЦЦА

Пачула маці, што Антук яе плача, — хлопчык быў ужо сямігодка, крумяненькі, — выскачыла ў панадворак і пытае:

— Чаго ты, сынок?

— Певень на нагу наступіў!

— То што-ж за бяда: певень ня конь, нагі табе не скалечыў.

— Ага, не скалечыў, а як пад старасьць то й гэта адгукнецца.

## ВАРОНА І РАК

Ляціць варона па-над ракой і каркае, ды так каркае, што не ўцярпеў рак сядзець у сваей норцы і вылез паўзірацца, чаго яна галасуе. Вылез рак і пытае вароны:

— Чаго ты гэтак гвалт падняла?

— Чаго я гвалт падняла? А як-жа, яшчэ ён, у каторага галава не з таго канца засечана, пытаецца ў мяне! Чаго я гвалт падняла? Кажны будзе крычаць на маім мейсцы: Гняздо, у якім я вясну веснавала і лета летавала, цяпер суздром усё засьмечана.

— А куды-ж ты цяпер ляціш? — пытае рак.

— Новага гнязда шукаці!

Падумаў, падумаў рак, дый кажа:

— Э, кумка, дарэмна твой клум і турбота, бо ты-ж і новае гнязло засьмеціш...

## ВУЖ КУРТАТЫ І МУЖЫК БАГАТЫ

Сярод дрыгвы жывучы, бяз вужа ў хаце не абыйдзешся: за лыжку малака ён пілнуе гаспадара, каб гадзюка ў хату ня ўлезла. Кот — граза мышэй, а на зьмей — гадуй у хаце вужэй.

У ваднаго багатага мужыка быў стары вуж, ужо аж сівы ад старасьці і, як толькі чэлядзь сядзе за стол, то і вуж пад стол, каля ног увіваецца, да дзяцей дабіраецца, якія малако ядуць. Думаў, думаў мужык дый надумаўся: вуж стары, гадзьву не палоша, малако-ж лакоча; трэба яго забіць! І ўзяўшы сякеру, гак, па вужу! І адсек яму хвост.

Вуж уцёк у нару і, прыждаўшы пару, укусіў мужыковага сыночка. Вуж ня злы, але мсьціцца за крыўду.

Сын памёр мужыкоў і як ішло перш рукой у яго ў гаспадарцы, так цяпер, што ні крок, то бяда: то агонь, то вада глуміць працай набыты дабытак. І зьбяднеў той мужык, а таму, што яму стары вуж ня спрыяе.

Што рабіць? Трэба, думае, з вужам мірыцца. Вось ідзе да нары, дзе сядзеў вуж стары:

— Давай-каа, — кажа, — мы будзем з табою гадзіцца!

А вуж з норкі глыбокай дае гэткі адказ:

— Не, ужо, браце, ня час нам з табою аб згодзе гукаці. Табе сына твайго аніяк не забыць, мне-ж заўсёды баліць тое мейсца, дзе быў калісь хвосьцік. У нашай дружбе цяпер, ты мне, браце, павер, шчырасьці даўнай ня будзе. Каб узаемна сябе нам больш зла не рабіць, ты ня руш больш мяне, а цябе я таксама, ня буду чапаці. Я ў нарэ, а ты ў хаце, будзем век дажываці.

## ЧАМУ ПАНАС СТАЎСЯ ВАЎКАЛАКАМ?

З кажным няшчасьце такое можа здарыцца, як то было з нашым Апанасам. Запрасілі сватам на вясельле, а чараўнік, Граўша, якога ён чаркай абыйшоў, па назласьці перакінуў яго ў ваўкалака. І пабег наш Панас ваўкалакам у лес. Тры гады ваўкалачыў, а на чацьверты ў чалавека абярнуўся. Вярнуўся ў вёску, пажыў-пажыў між людзей дый кажа:

— Не, тры гады я з ваўкамі ў стадзе жыў, па воўчу выў, няшчырасьці-ж я тамака ня бачыў. Воўк злы, як галодны, а пад'еў — злосьць уся ад сэрца адляжа. Лепш з ваўкамі ў стадзе, як зь людзьмі ў грамадзе, бо людзі, чым болей маюць, тым болей жадаюць: другі-то і з бацькі ў дамоўцы звалок-бы кашулю! Вочы вашы завідушчыя, рукі заграбушчыя, сэрцы-ж ня знаюць меры ў хаценьні.

І, згробся дый пайшоў назад у лес і ўжо да канца свайго жыцьця ваўкалачыў.

## ЛЕПЕЙ ВОЛ ЯРЭМНЫ, ЯК ЖАРАБЕЦ СТАЕННЫ

Былі ў ваднаго гаспадара два парубкі: Якім і Трахім.

# Міт аб Немцах – распадзельніках Расеі

**АД РЭДАКЦЫІ: Ніжэй друкуем артыкул ведамага казацкага палітычнага дзеяча інж. В. Г. Глазкова, зьмешчаны ім у «Казачым Весьніку» № 2 за люты-сакавік 1954 г. Артыкул пісаны спэцыяльна для Казакаў, таму аўтар ілюструе свае тэзы галоўна прыкладамі з казацкага жыцьця. Ён цэнны тым, што правільна насьвятляе нямецкую ўсходнюю палітыку падчас апошняй вайны, таму, уважаем, зьяўляецца ён у роўнай меры цікавым і для беларускага чытача.**

*

Наўсуперак бясспорным фактам і гістарычным дакумэнтам, расейскія адзінанедзялімцы назойліва талкуюць як перад чужынцамі, так і на балонах сваей прэсы аб тым, быццам-бы Немцы ў часе апошняй сусьветнай вайны хацелі падзяліць Расею і што якраз гэтыя пляны і прывялі да развалу гітлераўскай Нямеччыны. Такімі сьвядома ілжывымі цьверджаньнямі расейскія вялікадзяржаўнікі імкнуцца накінуць сусьветнай публічнай апініі думку аб неабходнасьці захаваньня «адзінай і недзялімай» Расеі і аслабіць ейнае зацікаўленьне нацыянальна-вызвольнымі імкненьнямі паняволеных Масквой народаў.

Распараджаючыся ня толькі сваімі асабістымі спасьцярогамі над праводжанай Немцамі палітыкай на занятых імі падчас другой сусьветнай вайны тэрыторыях СССР, але й мноствам дакумэнтаў, якія сталіся цяпер даступнымі шырокай грамадзкасьці, мы маем права цьвердзіць, што ўсё гэта няпраўда. У запраўднасьці г. зв. «распадзельных плянаў Розэнбэрга» Немцы ніколі ў сваей практыцы не праводзілі.

Да самага пачатку вайны з СССР нямецкія колы ня мелі ніякіх ясных і дакладных плянаў у дачыненьні да народаў СССР. Пры нацыянал-сацыялістычным урадзе пераважаў дух Рапальлё, аб узаемным эканамічным і навет палітычным супрацоўніцтве прамысловай Нямеччыны з аграрнай Расеяй, які знайшоў сабе падмацаваньне ў заключаным між Сталінам і Гітлерам дагаворы.

Казённая расейская гісторыя за звыш чымся 200 год пасьпела стварыць на Захадзе абраз «адзінай і недзялімай» Расеі з адзіным народам падобна Францыі, Нямеччыне, Брытаніі. Гэтыя ілжывыя паняцьці аб Расеі прывіваліся ня толькі ў публічнай апініі і школах Эўропы, але імі жылі і ўсе г. зв. «знатакі» Расеі і расейскага пытаньня. У Нямеччыне, як бліжэй паложанай да Расеі, такі крывы абраз Расеі панаваў ува ўсіх слаёх насельніцтва. На сколькі былі моцнымі гэтыя хвальшывыя паняцьці аб Расеі, яскрава сьветчыць прамова А. Розэнбэрга, сказаная ім 20. 7. 1941 г. да сваіх найбліжэйшых супрацоўнікаў пасьля назначэньня яго міністрам «занятых усходніх акругаў».

Толькі зусім незадоўга перад вайной з СССР пры «Вонкавапалітычным кіраўніцтве партыі», на чале якога стаяў А. Розэнбэрг, якога лічылі ў колах нацыянал-сацыялістычнай партыі знатаком расейскага пытаньня, пачалі зарысоўвацца яшчэ ня зусім ясныя пляны на аддзяленьне некаторых тэрыторыяў ад СССР. Пры чым гэтыя пляны ня йшлі далей аддзяленьня ўжо раней аддзеленых ад Расеі Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Летувы і да абмежаванага аддзяленьня Ўкраіны і Каўказу. На сколькі гэтыя пляны былі ўзапраўды яшчэ зусім няяснымі, аб гэтым з усей ачавіднасьцю гаворыць якраз зьмест успомненай намі вышэй прамовы А. Розэнбэрга.

Калі дэкрэтам Гітлера з 16. 7. 1941 г. было створанае «Міністэрства занятых усходніх акругаў» і на чале яго быў пастаўлены А. Розэнбэрг, многія ўважалі, што якраз ён зьявіцца фактычным кіраўніком нямецкай палітыкі на гэтых тэрыторыях, што ён будзе далей разьвіваць намечаныя ім пляны і ажыцьцяўляць іх. Але ўсё гэта асталося толькі на паперы. Сам Розэнбэрг ніколі і ў ніводнай із занятых Немцамі акругаў СССР ня змог у якой-небудзь меры на практыцы праводзіць сваей палітыкі. Сам ён і ягонае міністэрства да канца сваіх дзён ня мелі ніякага практычнага кіраўніцтва і навет уплыву на жыцьцё і ягонае разьвіцьцё ў занятых Немцамі ўсходніх акругах СССР. У іх дзеілі зусім іншыя асобы, якія мелі фактычную ўладу. Імі зьяўляліся Эрых Кох, Кубэ і іншыя.

Нямецкая палітыка на ўсходзе ня была падчас вайны сталай і аднолькавай. Яна перайшла цэлы рад зьменаў, але ніколі ня была ў сілах правільна й станоўча падыйсьці да разьвязкі ўсіх вострых і неадкладных пытаньняў Усходу Эўропы. Гэта пацягнула за сабой спачатку палітычны правал нямецкай палітыкі на Ўсходзе, а за ім наступіў і правал ваенны.

Бліскучыя пасьпехі нямецкай арміі на Ўсходзе закруцілі галаву Гітлеру і ягонаму акружэньню. Яны ў запраўднасьці ня толькі мроілі, але й пастанавілі на практыцы захопліваць там «жыцьцёвы прастор для нямецкага народу», уважаючы, што там, дзе ступіў нагой нямецкі жаўнер, там і нямецкая зямля. Пры гэтым яны зусім ня думалі аб аддзяленьні ад СССР якіх-небудзь тэрыторыяў і прадстаўленьня ім незалежнасьці, але заводзілі ў занятых акругах свой парадак, кіруючыся выключна сваімі, нямецкімі інтарэсамі. Мы былі жывымі сьветкамі стварэньня Генэрал-Губэрнатарства, Остлянду, Генэралкамісарыяту Ўкраіны і інш. зь непадзельным у іх гаспадарваньнем нямецкіх гаўляйтараў.

Такая палітыка была ўстаноўленая ў галоўнай гасподзе Гітлера ўжо 16. 7. 1941 г., аб чым так красамоўна гаворыць тайны дакумэнт БО/ФЮ, зрэдагаваны Марцінам Борманам на нарадзе Гітлера зь Гімлерам, Борманам, Гэрынгам, Кайтэлям, Ляммерсам і Розэнбэргам.

Трэба адцеміць, што самымі актыўнымі і бясспрэчнымі выканальнікамі нямецкай палітыкі на Ўсходзе аказаліся тады праніклівыя расейскія салідарыстыя з НТС, якія старанна ўладжваліся пры розных нямецкіх штабах і ўстановах у якасьці ўсемагчымых зондэрфюрэраў, перакладчыкаў і г. п., але аднâчасна працавалі на бальшавікоў, аб чым пераканаліся толькі ў канцы вайны і самі Немцы, расстрэліўшы сотню такіх памочнікаў, а часьць замкнуўшы ў концлягеры.

У гэты час Казакі, змагаючыся супраць бальшавікоў і чырвоных партызанаў, павінны былі сваёй кроўю і цяжкімі ахвярамі даказваць наяўнасьць казацкіх нацыянальна-вызвольных імкненьняў да адраджэньня сваёй дзяржаўнай незалежнасьці, наяўнасьць казацкага пытаньня. Як ведама, у пачатку вайны нямецкія колы станоўча й катэгарычна адмаўляліся прызнаваць Казакаў за асобны, самастойны народ, прызнаваць за імі неадменнае права на іхную собскую свабоду. Сколькі цяжкасьцяў і высілкаў, сколькі энэргіі й цьвёрдасьці трэба было Кіраўніцтву Казацкага Нацыянальнага Руху, каб, змагаючыся супраць усходняй палітыкі Немцаў усімі даступнымі спосабамі, дабіцца вызнаньня Казакаў. На сколькі і тут былі моцныя пазыцыі расейскіх адзінанедзялімцаў сярод нямецкіх колаў, сьветчыць факт, што ім удалося на чале кіраўніцтва самастойным казацкім пытаньнем і казацкімі справамі паставіць паслушных стаўленікаў расейскіх адзінанедзялімцаў, відзеўшых сьмяротную небясьпеку для сваіх імпэрыялістычных плянаў, у тым выпадку, калі кіраўніцтва казацкімі справамі будзе ў руках казацкіх нацыяналістых, што з такой цынічнай адкрытасьцю паказаў пасьля вайны на балонах журналу «Часовой» № 298-302 В. Ніканаў.

(Заканчэньне на 8-ай балоне)



# „Трагэдыя Расеі“

(Заканчэньне з 3-ай балоны)

донскіх і прыволскіх стэпаў пад правадырствам Амелі Пугачова і Сьценкі Разіна, ні дэкабрыстыя, ні пэрманэнтныя хваляваньні прыдняпроўскіх казакаў (Украінцаў), ні арганізаваныя ў вялікім маштабе паўстаньні Палякаў, Беларусаў пад правадырствам Кастуся Каліноўскага, каўкасцаў пад правадырствам Шаміля і інш. Усё сьсякалася маскоўскай шабляй, выстрэльвалася і вывешвалася жандармэрыяй. Расея, натхнёная шавінізмам, вытокі якога, як паказана, сягаюць XIII стагодзьдзя, ішла імпэрыялістычным шляхам па трупох да поўнае свае катастрофы. Калі Іван Каліта «зьбіраў расейскія землі», а Пётр прасякаў «вакно» ў Эўропу, дык Мікалай I, Аляксандар II і III і Мікола II ужо адчынялі вароты ў Жоўтае і Міжземнае мора, а сталінаўскія гадунцы стаяць ужо перад Гібральтарам і Атлянтыкай.

У гэтым імкненьні за заваяваньня сьвету маскі мяняліся: Калі справа ішла пра Літву (Беларусь), Украіну і Польшчу — славянафільства, супольнасьць славян; калі экспансія ськіроўвалася на Балканы — расейскі мэсыянізм; пры Сталіне — правадырства «старэйшага брата». Але ці прынесьлі гэтыя заваяваньні ў канчальным выніку хоць якую карысьць самому расейскаму народу? Адказ даюць самі факты. Маленькая Швайцарыя, якая абараніла сваю незалежнасьць у вайне зь Немцамі, стварыла высокую бытавую культуру, узьняла на высокую вышыню сваю гаспадарку; Галяндыя і Данія — таксама, а Бэльгія, апрача гэтага, дала сьвету вялікіх мастакоў ува ўсіх галінах творчай дзейнасьці. Усе гэныя заваяваньні патрэбныя былі не расейскаму народу, а толькі невялікай кучцы, зьбліжаных да двара, як Меншыковы, Пацёмкіны, Арловы, Львовы, Трубэцкія, Мураўёвы, Паськевічы і іншыя, якія ў заваяваных краёх атрымлівалі высокія становішчы і ўзнагароджваліся канфіскаванай маемасьцю.

Сталін і ягоныя гадунцы ідуць тымі-ж самымі сьлядамі. Бальшавізм ніяк не зьяўляецца нечым іншародным, нерасейскім. Гэта — вынасак спрадвечнай расейскай рэакцыі. Цяжка дагледзіць якую-небудзь розьніцу паміж царыцай Кацярынай, што ўвяла паншчыну, Аракчэевам, што будаваў вайсковыя пасяленьні, і Сталінам, што завёў калгасы. Усім ведамыя «пацёмкінскія вёскі» і сталінскія «паказальныя» палацы й калгасы. Сутнасьць іхная тая самая. Дастаеўскі ня высмактаў з пальца свайго Шыгалёва: гэты прататып Сталіна ён назіраў і вывучаў у жыцьці. Рэакцыйны царскі міністар Дурнаво калісьці пісаў: «Усякі рэвалюцыйны рух (у Расеі) няўхільна вырадзіцца ў сацыялістычны (г. зн. у ягоным разуменьні — у дыктатуру). Паза намі няма нікога. Апазыцыя ня мае падтрыманьня ў народзе, які ня бачыць розьніцы паміж урадавым чыноўнікам і інтэлігентам». Гэты рэакцыянэр добра ведаў Расею, ведаў, што ўзапраўды дэмакратычна-інтэлігенцкія элемэнты ў Расеі зьнішчаныя і ў выпадку рэвалюцыі поўінтэлігент Шыгалёў нямінуча захопіць уладу. Выкарыстаўшы лёзунгі сацыяльнай і нацыянальнай свабоды, у выніку гэтага разрыву інтэлігенцыі з народам, бальшавізм мусіў скаціцца на традыцыйны й выпрабаваны расейскай рэакцыяй імпэрыялістычны шлях.

**Трагэдыя расейскага народу ў тым, што ён, на працягу сваёй гісторыі, усе свае сілы аддаваў на заваяваньні больш вольных і больш культурных сваіх суседзяў. Гэта пазбавіла яго магчымасьці абараніць свабоду ў сябе дома і стварыць больш дасканалыя формы жыцьця. Трагэдыя-ж паняволеных Расеяй народаў у тым, што яны мусілі ня толькі несьці ўсе цяжары гэтага трагізму із сваім заваявальнікам, народам расейскім, але й адчуваць, што яны «інородцы», народы ніжэйшае катэгорыі.**

Зусім відавочна, што расейскае зарубежжа мусіць зрабіць пераацэнку сваіх пазыцыяў. Замест абароны ўжо аджыўшага, яму трэба ўзяцца за перабудову таго, што яшчэ жыве, — і зусім на новых пачатках. Да падзелу самой Расеі ніхто ня імкнецца: гутарка ідзе аб вызваленьні тых народаў, што шмат выцярпелі і яшчэ церпяць ад расейскага імпэрыялізму. Калі Расейцы выкажуць добрую волю — гэта найлепшы шлях да перамогі над супольным ворагам. Трэба кінуць думаць, што віной усіх няшчасьцяў ёсьць «заплямбаваны нямецкі вагон» або «падкопы Ватыкану пад сьвятую праваслаўную Русь». Шмат хто із «сэпаратыстых», што змагаюцца за волю сваіх народаў, пакаштаваў і старых яшчэ расейскіх турмаў, і новых савецкіх, і гітлераўскіх кацэтаў, і польскіх Лукішак і Картузкіх Бярозаў. Нельга думаць, што нехта гэтым «сэпаратыстым» даў па мяшку грошаў, зь якіх яны цяпер чэрпаюць сумы для сваей вызвольнай дзейнасьці. Амаль усе яны у дзень стаяць за хвабрычным варштатам, а ў вечары самаахвярна робяць тое, што патрэбнае для справы вызваленьня сваіх народаў. Дарэмна іх абвінавачваюць і ў тым, што яны быццам распальваюць нацыянальную варожасьць. Іхная справа шляхотная! Нам, Беларусам, чужыя рысы нацыянальнае варожасьці. На нашай зямлі адвечна зжываліся між сабой і Татары, і Палякі, і Цыганы, і ўцекачы з Маскоўшчыны Расейцы-стараверы, і Жыды. Апошнія былі зраўнаныя ў правох з хрысьціянамі Вялікім Князем Вітаўтам, у той час, як у Заходняй Эўропе яны яшчэ сядзелі па гэтах, а ў Маскоўшчыну ня ўпускаліся зусім аж да Лютаўскай рэвалюцыі. Чужы Беларусам і антаганізм рэлігійны. У архівах Ватыкану можна яшчэ знайсьці грамату Вялікага Князя Міндоўга да Рыму, Рыгі, прыморскіх і ганзыятыцкіх гарадоў аб рэлігінйных свабодах, а ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага з 1588 г., у разьдзеле III, параграфе 3, запісана:

**«А іж сярод абыватэляў нашага панства ёсьць рознасьць немалая з стараны веры хрысьціянскай, забягаючы таму, абы ся з тае прычыны межы людзьмі зашце якое шкадлівае ня вшчэла, катарае па іншых каралеўствах ясна відзім, абяцуем то сабе спольна за нас і за патомкі нашыя на вечныя часы пад абавязкам прысягі, пад вераю, чэсьцю і сумленьнем нашым... пакой межы імі захаваці».** Так!

**Мартын Люціч**

Якіму плаціў гаспадар у два рублі даражэй чым Трахіму. Якім быў павольны. Трахім быў круты, шпаркі. Як прыдзе сьвята, то Трахім і прыстане да гаспадара, чаму той яму менш плаціць, чым Якіму:

— Я, — кажа, і ў рабоце спраўны і да пасылак шпаркі, а ён, Якім, робіць, як трач ківаецца.

— Добра, — кажа гаспадар, — мы пробу зробім, калі ты лепш за яго справішся, то табе будзе яго бонда, а яму твая. Добра!?

Прыждалі лета, прышоў час сенакосу. Вось гаспадар кліча парабкаў і кажа ім.

— Пойдзеце, хлопцы, у луг касіць. Ты Трахім пойдзеш у першым пракосе, глядзі, ня дайся абагнаць Якіму. Добра!

— Добра!

Выйшлі парабкі на луг, у першым пракосе стануў Трахім, у другім Якім. Пусьціліся касіць. Трахім косіць усё ча-ча-чах-тса! ча-ча-чах-тса! А Якім — ча-а-чах! ча-а-чах!

Да сьнеданьня на цэлы прагон абагнаў Трахім Якіма, але і сам увесь да пят потам зьліўся. А Якім, ніштo, нат не ўпацеў. Да абеду абодвы парабкі зраўняліся, бо сьпярша хапіўшы, Трахім зусім асалавеў. У падвячорак, як не стараўся Трахім, ня мог уцячы ад Якіма, які па пятах яму ўжо касой пазваніваў, так што, хоцькі-няхоцькі павінен быў пусьціць Якіма наперад. Вечарам-жа — Якім гэтак сама роўна касой махаючы, як і раніцай, быў на цэлыя гоні наперадзе.

Прышоў гаспадар, паўзіраўся на сваіх парабкаў і кажа:

— Работу трэба браць не рацівасьцю, а цяглівасьцю. Ня той працуе, хто як стаенны жарабец танцуе, а хто як ярэмны вол, аднэй натугай можа доўга цягнуць.

### ЯК КУЗЬМА СТРЭЛЬБУ РАБІЎ

Што наш брат вельмі выносьлівы, цярплівы — гэта ўсім ведама. Быў у нас Кузьма каваль і заманулася яму немагчымае: самому стрэльбу скаваць. Ад рана да вечара мяхі разьдзьмухаў, зялеза каваў, рулькі вярцеў і ўсе няўдачы цярпліва выносіў тры гады, небарака. Усё ніяк яму не ўдавалася зварыць зялеза роўна на ўсёй рульцы. Што ня ўдасцца — ён на нова яе перакувае, псуе, мяркуе, лютуе, усё прыгаварваючы:

— Не-ткі даканаю я цябе, гадзіна!

І такі даканаў: рульку на чацьверты год зварыў, абтачыў, што глядзець проста люба! Ложа даправіў, курак даставіў. Ня стрэльба, а проста зьдзіўленьне! Трэба-ж здарэньня, вазьмі ды зламіся шрубочак пры курку! Тут Кузьме раптам усё сэрца ўспыхнула: усю крыўду ўспомніў сваю доўгалетнюю і з злосьці вялікай стрэльбу паламаў, горан разваліў, мех парэзаў і кузьню падпаліў.

Не дарма-ж кажуць:

— Беларус цярплівы: — цярпіць, цярпіць, а ўрэшце, раптам, хапае сякеру і адразу — абухом па лбе валіць!

### СМЭРД І ВАЯВОДА

У крыўскага князя Ўсяслава, якога за мудрасьць ягоную чараўніком звалі, быў ваявода, які штодзень раніцай прыходзіў даваць князю справаздачу з таго, што рабіў учора.

Смэрд, прыбіраючы княжую сьвятліцу, палючы ў печы, кажны дзень чуў усю работу ваяводы і бачыў, што ў гэтай рабоце нічога нязвычайнага ня было. Усё, што рабіў ваявода, ён таксама патрапіў-бы рабіць. Вось ён і давай казаць князю:

— Чаму я, княжа, не ваявода? Я таксама магу ваяводай быць, дай толькі мне волю тое-ж рабіць, што і яму.

— Добра, — кажа князь, — смэрдаў у мяне многа, а ваяводаў мала, калі і ты ваяводам будзеш, то ад гэтага толькі ў нашай краіне сілы прыбудзе. Але перш чым цябе зрабіць ваяводам, ты павінен паказаць, ці справішся з малымі рэчамі.

Устаўшы вышаў таго дня князь на паладок, сеў на седзішча і ўзіраецца на Дзьвіну раку. Па рацэ-ж, туды і сюды людзі езьдзяць усялякія, за ўсялякімі справамі. Вось ён кліча свайго любімага смэрда і кажа яму:

— Сядзь на човен і спытай, куды яны едуць?

Смэрд хапіўся барджэй, сеў у човен, дагнаў стругі тыя і спытаў:

— Куды, людзі добрыя, едзеця?

— Да мора! — адказалі тыя.

Вярнуўся смэрд і кажа князю:

— Да мора едуць, княжа!

— А ў які горад?

— Вось гэтага, — кажа смэрд, — я ня спытаў у іх.

— Дык дагані ды спытай, у які горад едуць.

Барджэй сеў у човен смэрд і, добра папрацаваўшы вяслом, нагнаў стругі дый пытаецца:

— А ў які горад, людзі добрыя, едзеце?

— У Візбу! — адказалі купцы.

Прыехаўшы назад і кажа смэрд князю:

— У Візбу едуць яны!

— Добра, — кажа князь, — а скуль яны едуць?

— Ах, каб яно, то-ж я ня спытаў у іх!

— Ну, нічога, — цешыць князь, — дагані і спытай.

Скочыў у човен смэрд, глянуў на раку і бачыць, што стругі ўжо далёка, далёка. Але добра папрацаваўшы вяслом нагнаў іх і пытае:

— А скуль едзеце, людзі добрыя?

— Зь Віцебску! — адказалі купцы.

Увесь абліўшыся потам, вярнуўся смэрд да князя і кажа:

— Зь Вецебску едуць яны, княжа!

— Добра, — пахваліў князь, — а што-ж яны вязуць, ці ня спытаў ты?

— Не, кажа смэрд, — ня спытаў.

— То хутчэй дагані і спытай! — кажа князь.

Кінуўся смэрд у човен і, астаткамі сілы намагаючы, нагнаў купцоў.

— А што вязеце, людзі добрыя?

— Збожжа! — адказалі купцы.

Ледзь жывы із змучаньня вярнуўся смэрд да добрага князя і кажа:

— Збожжа вязуць яны, — а сам ледзь дыхаць можа.

— Гэта добра, — ізноў пахваліў князь, — а якое-ж яны вязуць збожжа?

— Ня прышло ў дум спытацца, — кажа смэрд.

— То дагані іх, чым барджэй і спытай!

Бягом пабег смэрд да чоўна, бо ведаў, што з кажным момантам стругі далей адплываюць.

Вярнуўшыся сказаў князю, што купцы вязуць жыта.

Князь тады спытаў, ці даведаўся ён, дзе яны яго куплялі, пасьля пачом куплялі. Калі князь сказаў смэрду, каб той восьмы раз дагнаў купцоў і спытаў, колькі вязуць збожжа купцы і пачом думаюць прадаць яго, то смэрд ізь сьлязьмі кінуўся яму ў ногі, кажучы, што ўжо ізь сілаў выбіўся.

Тады князь паклікаў ваяводу і кажа яму:

— Тут праехалі ўніз вадой стругі з таварамі, сядзь у човен, дагані іх і спытай куды едуць.

Ваявода сеў у човен, і, па нейкім часе вярнуўшыся, кажа князю:

— Купцы гэтыя едуць зь Віцебску ў Візбу, вязуць 1000 камянёў жыта, якое куплялі ў Воршы па грыўні за камень, думаюць прадаць яго, накінуўшы па 10 шэлягаў на камень. Акрэм гэтых стругаў, гэтымі днямі будуць праяжджаць яшчэ 16 стругаў іхных з другімі таварамі. Яны хочуць вяртацца назад да зімы.

Тады паклікаў князь смэрда і кажа:

— Чуў, што ваявода мне пераказаў?

— Чуў, — адказаў смэрд.

— Дык бачыш, ён за адзін раз даведаўся больш, чым ты за сем разоў. Дзеля гэтага то, бачыш, ты будзеш пакуль-што і далей у мяне смэрдам, а ня ваяводам.

# Падзеі сярод украінскіх нацыяналістых

Глыбокі нутраны крызыс, які трывае ад даўжэйшага часу ў радох Замежных Часьцінаў Арганізацыі Ўкраінскіх Нацыяналістых (ОУН), прывёў апошнім часам да развалу гэтае арганізацыі на дзьве часьці. Паколькі гэтая справа ня можа ня цікавіць і беларускага грамадзянства, ніжэй інфармуем за камунікатамі з украінскай прэсы яго бліжэй аб гэтым развале й галоўных прычынах, што да яго прывялі.

Вярхоўнае кіраўніцтва ОУН знаходзіцца на Ўкраіне і там дзеіць падпольна. Гэтаму вярхоўнаму кіраўніцтву падпарадкаваныя й Замежныя Часьціны ОУН. Летам 1953 г. кіраўніцтва ОУН у Украіне пераслала на эміграцыю загад, каб падзеленыя яшчэ раней на дзьве часьці ўкраінскія нацыяналісты — ОУН пад кіраўніцтвам Сьцяпана Бандэры з аднаго боку і Украінская Галоўная Вызвольная Рада (УГВР) — з другога — задзіночыліся, арганізацыйна зрэфармаваліся і перабудавалі сваю дзейнасьць у дэмакратычным кірунку. З гэтаю мэтаю з Украіны — ад кіраўніцтва ОУН быў дадзены загад, каб кіраўніцтва Замежных Часьцінаў ОУН часова перабрала на сябе Калегія Ўпаўнаважаных ў складзе Л. Рэбэта, З. Матлы і С. Бандэры і была праведзеная рээрганізацыя Замежных Часьцінаў ОУН згодна з пасынямі ОУН на Ўкраіне.

У той час, калі Л. Рэбэт і З. Матла і іх падтрымала большыня сяброў ОУН, С. Бандэра ёй падпарадкавацца адмовіўся і ў склад Калегіі не ўвайшоў. Наадварот, а выніку завостранага крызысу і нутранай апазыцыі, Бандэра, стоячы на чале кіраўніцтва Замежных Часьцінаў ОУН, пачаў праводзіць у ім чыстку — бясправна звальняць або завешваць нявыгодных яму сяброў кіраўніцтва, а таксама праводзіць у выгадным для сябе кірунку пэрсанальныя перастаноўкі ў арганізацыях, падпарадкаваных ОУН.

У вадказ на гэта Калегія Ўпаўнаважаных у складзе двух асоб — Л. Рэбэта і З. Матлы (без Бандэры) з днём 9 лютага сёлета прыступіла да дзеяньня, а 12. 2. 1954 г. разьвязала дасюлешняе кіраўніцтва Замежных Часьцінаў ОУН. С. Бандэра гэтай пастановы Калегіі Ўпаўнаважаных ня прызнаў і асьветчыў, што кіраўніцтва Замежных Часьцінаў ОУН ён уважае і далей за законна існуючае і дзеючае.

У сувязі з гэтым арганізацыя расшчапілася на дзьве часьці, што павялі між сабою войстрае ўзаемнае змаганьне: на часьці: бандэраўскую і супрацьбандэраўскую, якая здысцыплінавана падпарадкавалася інструкцыям з бацькаўшчыны. Сваёй якасьцю і пэрсанальным складам абедзьве групы няроўныя. З Бандэрай асталіся толькі таталітарныя элемэнты, што ня вызнаюць дэмакратычных прынцыпаў ані ў арганізацыйным жыцьці, ані ў палітыцы, між імі і ведамы ўжо нашым чытачом «неадменны» прэзыдэнт АБН Я. Стэцька, ды група сфанатызаванай моладзі, ваколі-ж Калегіі Ўпаўнаважаных згрупаваліся ўсе выдатнейшыя і дэмакратычныя сілы, так што перавага апошніх над першымі відавочная. Калегіі Упаўнаважаных падпарадкаваўся і ўвесь рэдакцыйны пэрсанал газэты «Украінські Самостыйнык», найсаліднейшага прэсавага воргану ОУН на эміграцыі. Але бандэраўская баёўка тэрорам захапіла друкарню «Цыцэро» ў Мюнхэне, у якой друкаваўся «Украінські Самостыйнык», а таксама і памешканьне рэдакцыі. Гэтай справай занялася нямецкая паліцыя й нямецкія судовыя органы, якія маюць вырашыць, хто зьяўляецца законным собсьнікам газэты «Украінські Самостыйнык». А тымчасам з 21 лютага 1954 г. выйшлі два «Украінські Самостыйнікі» (пад тым самым загалоўкам і тэй самай графічнай формы і з тым самым бягучым нумарам) — адзін групы, што падпарадкавалася Калегіі Ўпаўнаважаных, а другі — бандэраўскі.

Із належнага ў такіх выпадках такту ня будзем увахозіць у вацэну заіснаваўшых выпадкаў, паскольки яны датычаць выключна нутраных украінскіх дачыненьняў. Гэта справа нутрана ўкраінская. Затое ўважаем за патрэбнае закранўць той аспэкт гэтае справы, які пасярэдна датычыць і эміграцыі іншых паняволеных народаў з за зялезнай заслоны, а ня толькі Украінцаў. Маем на думцы АБН. Вось-жа Я. Стэцька, прэзыдэнт АБН ужо ад шасьці год, які надаваў агульны палітычны тон гэтай арганізацыі, нязгодны з палітычнымі патрабаваньнямі іншанацыянальных арганізацыяў — сяброў АБН, ды праводзіў таталітарна-фашыстаўскую практыку ў ягоным арганізацыйным жыцьці, што запачаткавала развал гэтае арганізацыі, апынуўся на баку Бандэры. Бандэра із Стэцькам, як зазначалася, рэпрэзэнтуюць таталітарную частку ОУН, якая ня толькі ня вызнае дэмакратычных прынцыпаў у арганізацыйным жыцьці, але навет ня лічыцца з воляю бацькаўшчыны. Дык нічога цяпер дзіўнага, што ўсё тое, што было дэмакратычнага ў АБН, адхілілася ад Стэцькі і кіраванай ім «фюрэрску» арганізацыі, калі ад яго і ягонага зьверхніка — Бандэры адхілілася й большыня ягоных суродзічаў і палітычных аднадумнікаў. Гэта паказвае, што нэгатыўнае становішча беларускай дэлегацыі, занятае да палітыкі АБН і супрацьстатутовых практык Стэцькі, як і становішча «Бацькаўшчыны», выказанае ў зьмешчаных у ёй артыкулах аб АБН, было правільнае.

І яшчэ адна справа. У сувязі з вышэй пададзенымі падзеямі ў ОУН мандат Стэцькі у АБН ужо фактычна выгас. Як ведама, Стэцька знаходзіцца ў АБН ад Замежных Часьцінаў ОУН, як дэлегат ад гэтае арганізацыі. Пастановай-жа Калегіі Ўпаўнаважаных з 12. 2. 1954 г. кіраўніцтва Замежных Часьцінаў ОУН было разьвязанае, а ягоныя функцыі перабрала ўспомненая Калегія Ўпаўнаважаных, якой Стэцька ня вызнае і ёй не падпарадкаваўся. Дык калі стаць на становішча, што пастанова Калегіі Ўпаўнаважаных з 12. 2. 54 г. зьяўляецца правамоцнай, — а правамоцнасьці й законнасьці ёй адмовіць нельга — Стэцька больш ня рэпрэзэнтуе ў АБН Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістых, а рэпрэзэнтуе толькі... самога сябе.

Дык цікава, які з гэтага зробяць вывад тыя арганізацыі, што яшчэ асталіся ў АБН і апрабоўваюць надалей палітыку й тактыку Стэцькі? (-Іч)

# Пісьмо у Рэдакцыю

Зьвятаюся да Вас, паважаны Рэдактару, з просьбаю зьмясьціць гэты ліст на балонках вашае паважанае газэты.

Праўда справа, парушаная ў гэтым лісьце, адносіцца да часапісу, якога я сам зьяўляюся рэдакатарам, але маю просьбу да Вас уважаю поўнасьцю абаснаванаю, бо на зацемку ў «Божым Шляхам» № 56 «Зьезд ЦБАА» рэдакцыя «Божым Шляхам» да гэтага часу не атрымала ад нікога ніводнае засьцярогі, толькі ў вашай газэце № 1-2 (183-184) былы старшыня ЦБАА др. Б. Рагуля і старшыня кангрэсу А. Марговіч зьмясьцілі артыкул у форме публічнага запытаньня да мяне: «Непаразуменьне, ці злая воля?». Гэтае запытаньне забавязвае мяне да публічнага адказу ў той газэце, дзе яно было апублікаванае, дзеля гэтага ветліва прашу вас апублікаваць гэты ліст, як мой адказ і выясьненьне.

Ёсьць праўдай, што зацемку «Зьезд ЦБАА» рэдагаваў ніжэйпадпісаны а. Леў Гарошка і ён бярэ на сябе ня толькі маральную адказнасьць за яе зьмест, але на гэтым месцы раз сьцьвярджае яе праўдзівасьць і на доказ гэтага сьцьвярджае наступныя факты:

1. Няпраўдай ёсьць, што Цэнтраля Беларускіх Акадэмічных Арганізацыяў (ЦБАА) заснавалася ў 1946 г., а ёсьць праўдай, што ў тым часе была заснаваная яе папярэдніца — Цэнтраля Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (ЦБСА), а ЦБАА заснавалася ў 1949 г. ў Лювэне.

2. Ёсьць праўдай, што я быў запрошаны і што прысутнічаў, як госьць, на Зьезьдзе, але ёсьць няпраўдай, што я калі-небудзь быў дэлегатам ці рэпрэзэнтантам ЦБАА на Францыю. Аб гэтым я выразна заявіў на зьезьдзе, аб чым могуць сьветчыць усе прысутныя. Сапраўды дзіўна, як можна яшчэ валкаваць гэтую так ясную справу.

3. Ёсьць праўдай, што ад мамэнту свайго заснаваньня ЦБАА мела прадстаўніцтва ў Францыі і быў ім Гуртоок Беларускіх Студэнтаў у Францыі, адрас якога найвыразьней у сьвеце фігуруе на бланках ЦБАА. У міжчасе Гуртоок пастанова зьмяніўся, але не разьвязаўся, толькі ягоны адрас быў зьменены. І ёсьць няпраўдай, што гэтаму праўнаму прадстаўніку былі высланы запросіны. Я пры нагодзе зьвяртаў увагу аднаму зь сяброў управы ЦБАА на гэтую справу і ён перад усімі сабранымі заявіў, што пасьля таго ўправа ЦБАА на адным з паседжаньняў разглядала тую справу, але вырашыла яе адмоўна. У камунікаце, выданым пасьля Зьезду (памылкова нумараваны як трэці, а ў сапраўднасьці 4-ы, даты выданьня ня мае) управа ЦБАА кажа дасло ўна: «З прычыны непаразуменьня, за што ўсю віну ўзяў на сябе ўрад ЦБАА, дэлегат з Францыі ня прыехаў» (б. 2). Гэтым самым сказ з артыкулу: «Яўнай няпраўдай зьяўляецца цьверджаньне (маё), што некаторыя заўправдныя сябры ЦБАА ня былі запрошаны на кангрэс» — яўна супярэчыць і фактам і навет камунікату самое-ж управы ЦБАА (управы, а ня «ўраду», бо ЦБАА ня ёсьць дзяржавай).

4. Ёсьць праўдай, што ў 1951 г. была праўна дакааптавана частка сяброў управы ЦБАА, але ёсьць так-жа праўдай, што супраць іх ніхто ня меў на Зьезьдзе ніякай засьцярогі; але ёсьць няпраўдай, што кал. Запруднік быў дакааптаваны на месца д-ра Набагеза ў 1951 г. У Камунікаце ЦБАА № 3 з дня 3.11.1951 г. у разьдзеле «Зьмены ў урадзе БЦАА» кажацца: «У сувязі з прадбачаным выездам сакратара ЦБАА д-ра М. Жыліка ў Амэрыку, функцыі сакратара будзе выконваць кал. А. Арэшка. У сувязі з выездам скарбніка ЦБАА д-ра У. Набагеза на працу, функцыі скарбніка будзе выконваць рэфэрэнт сувязі кал. Л. Віньніцкі». Аб іншых зьменах у камунікаце нічога не ўспаміналася, хоць, як відаць, з наступнага Камунікату (б. 6) увядзеньне Я. Запрудніка ў склад управы мела-б стацца перад выданьнем Камунікату № 3, бо дня 23. X. 1951.

5. Цьверджаньне, што Студэнцкі Ансамбль «ёсьць акадэміцкай арганізацыяй», што найменш дзіўнае — гэта ці ня першая такая «акадэміцкая» арганізацыя на ўсім сьвеце, выдуманая Беларусамі!? Да гэтага часу ансамбль лічыўся толькі ансамблем незалежна ад таго, з каго-б ён не складаўся: ці з прафэсыйных сьпевакоў, ці студэнтаў, ці звычайных работнікаў. Ці-ж старшыні акадэмічнае арганізацыі яшчэ трэба выясьняць: што такое ансамбль і якая ёсьць розьніца між арганізацыяй акадэмікаў і акадэмічнай арганізацыяй?

6. Адносна пытаньня ськіраванага да мяне: «Каму і нашто быў патрэбен адзін голас больш?» Перш-на-перш мушу сказаць, што справа не ў ваднм голасе, але крыху больш, і якраз у тым, што бышая ўправа імкнулася штучна здабыць сабе хоць мінімальную большасьць. Відаць, што аўтары артыкулу, паставіўшы тое пытаньне, самі забыліся, аб чым пішуць і пару радкоў ніжэй спасылаюцца на апрабату Зьездам іхняе пастановы, толькі чамусьці ня кажуць, якою большасьцю яна адбылася. Уканцы замест выясьняць, каму быў патрэбен «адзін голас больш», пазвольце сабе спытаць бышага старшыню: якою большасьцю галасоў бышая ўправа ЦБАА атрымала абсалюторыюм?

7. Матарыяльнага становішча ЦБАА я не парушаў перш і не парушаю цяпер, хоць яму аўтары артыкулу прысьвячаюць шмат месца. Я толькі сьцьвердзіў факт, што за мінулых 4 гады была не адна нагода адбыць Зьезд з прадстаўнікамі ў васобах. А што гэтае цьверджаньне праўдзівае, даволі перагляньць газэты хаця-б толькі за мінулы 1953 г., дзе ўспаміналася, што ў Лювэне была госьця з ЗША і, наадварот, з ЗША і Канады быў прадстаўнік зь Лювэну, ужо не гаворачы аб розных іншых падарожжах студэнтаў з бліжэйшых краінаў.

8. Да майго цьверджаньня: «той, што будзе трымацца падобнае практыкі ў арганізацыйным жыцьці, тым самым маральна пазбавіць сябе права выступаць супраць тых камэдыяў з выбарамі, якія практыкуюць бальшавікі ў паняволенай бацькаўшчыне», аўтары артыкулу дадаюць: «Іначай кажучы... гэтак падрыхтаваньне, як і праведзеньне кангрэсу адбылося згодна з бальшавіцкімі мэтадамі». Зачым гэтае «іначай кажучы»?! Я сказаў ясна і выразна, тое, што хацеў сказаць, і непатрэбна пераіначваць сказанага. Але навет і супраць так пераіначанае думкі аўтары ўканцы свайго артыкулу толькі абяцаюць адказаць на «бальшавіцкія мэтады», а ў сапраўднасьці не падаюць зусім ніякага выясьненьня ні адказу, толькі выказваюць жаль, што закіды адносна зьезду выказала духоўная асоба. Уважаю, што гэта яшчэ ня так прыкра, калі я выказаў засьцярогі, але сапраўды прыкра, што замест іх паслухаць, адказныя асобы стараюцца з гэтага стварыць штучнае непаразуменьне.

З пашанаю

а. Леў Гарошка

Парыж, 11. 2. 1954 г.

# Міт аб Немцах - распадзельніках Расеі

(Заканчэньне з 7-ай балоны)

нямецкага вядзеньня ўсходняй палітыкі, усьцяж ускрываючы ейныя адмоўныя бакі, як усю ейную згубнасьць і для нямецкай справы. Іхны палітычны шчыт Казацкія нацыяналісты аставаліся да канца вайны ў яскравай апазыцыі да зусім чысты ад калябаранцтва зь нямецкім фашызмам, што яны ў любы мамэнт гатовы даказаць нязьбітымі дакумэнтамі і фактамі. Ім ня трэба цяпер клапатліва хаваць нітак свайго супрацоўніцтва і калябаранцтва з нацыстымі, як гэта прабуюць рабіць расейскія салідарысты, расейскія правыя й левыя палітычныя колы, што супрацоўнічалі зь гітлераўцамі.

Толькі пасьля спыненьня нямецкага наступу на ўсход, пасьля разгрому Немцаў пад Сталінградам і пачаткам пасьля гэтага адступленьня нямецкіх арміяў на Захад, пачаліся сярод нямецкіх палітычных колаў шуканьні новых прынцыпаў у іхнай усходняй палітыцы. Гэтую акалічнасьць выкарысталі тады й Казакі, каб дасягнуць канчальнага прызнаньня сваіх імкненьняў. Пасьпех гэтай работы выразіўся ў дэклярацыі нямецкага ўраду з 10. 11. 1943 г. аб прызнаньні ім права казацкага народу на яго собскую свабоду і дзяржаўную незалежнасьць.

Але й расейскія адзінанедзялімцы ня спалі. Яны й далей усякімі магчымымі спосабамі і шляхамі стараліся схіліць нямецкія колы ў бок «адзінай і недзялімай Расеі. У гэтым ім асабліва старанна памаглі многія русафільскія Немцы і прыбалтыйскія остзейцы. Часта яны былі большымі адзінанедзялімцамі, чымся самі Расейцы.

Свае імкненьні задзіночаныя расейскія вялікадзяржаўнікі ўзмоцнілі й праводзілі зь вялікім упорствам пасьля таго, калі 4. 9. 1943 г., пасьля разьбіцьця савецкай армейскай групы на Волхаўскім фроньце, папаў да Немцаў у палон савецкі генэрал А. А. Ўласаў. Ня гледзячы на тое, што генэрал Уласаў пры першым апытаньні яго нямецкім маёрам Дзюркзэнам станоўча заявіў, што ён тай пастанове з краю падпарадкаваліся зьяўляецца перакананым бальшавіком, Расейцы пастанавілі за ўсякую цану выкарыстаць яго для сваей акцыі, бо дагэтуль усе іхныя кандыдаты ў «праваддыры», асабліва з колаў «нафталінных генэралаў», станоўча забракоўваліся Немцамі.

А. Уласаў доўга не задумваўся і ўжо 10. 9. 1943 г., г. зн. літаральна пасьля пяці дзён, падпісаў першую антыбальшавіцкую лістоўку, у якой ня мала было нападаў і супраць Амэрыкі і Ангельшчыны і навет супраць Жыдоў. Аднак справа з Уласавым доўга не ўдавалася. Ён болей быў выкарыстоўваны для ўсемагчымых прапагандных мэтаў Немцаў, чымся для расейскіх справаў. А. Уласаў падпісваў усе лістоўкі, праклямацыі й маніфэсты прадстаўленыя яму русафільскімі Немцамі, якія запэўнівалі яго, што гэтым ён заваюе сабе давер кіруючых колаў Нямеччыны.

Спробы гэтых Немцаў ствараць арэолю ген. Уласаву ў чыста расейскіх акругах, занятых Немцамі, не ўкаранаваліся пасьпехам. Выступленьне ген. Уласава ў гарадзкім тэатры Смаленску 27. 2. 1944 г. было поўным правалам: заля была на палавіну пустая, ніхто з прысутных ня выявіў згоды стаць у рады ўласаўцаў. Вяртаючыся ў Бэрлін із сваей паездкі па Смаленскай і Пскоўскай акругах, А. Уласаў сам гаварыў, што маса расейскага народу моцна стаіць за бальшавізм, што у Расейцаў няма волі змагацца супраць яго, што бяз вонкавага падтрыманьня пасьпеху ня будзе...

Пасьля гэтага ў ген. Уласава наступіў пэрыяд бязьдзейнасьці, а ў зьбліжаных да яго ўзмоцненыя спробы дабіцца сувязяў зь кіруючымі коламі гітлераўскай Нямеччыны і галоўным чынам з эсэсаўскімі. Гэта ім удалося зрабіць пры пасярэдніцтве балтыйскага остзейца др. Крогера, які зьяўляўся СС-обэрфюрэрам, і Гунтэра д'Алькена, начальніка эсэсаўскага аддзелу прапаганды.

Калі пасля змовы на Гітлера 20. 7. 1944 года Гімлер стаўся фактычным гаспадаром III Райху, успоменым вышэй эсэсаўцам удалося ўладзіць 16. 9. 1944 г. ў Растэнбургу спатканьне Гімлера з Уласавам, дзе апошні стараўся пераканаць Гімлера ў тым, што ён, Уласаў, шырака ведамы ў СССР, што за ім пойдуць ягоныя прыяцелі з чырвонай арміі і ўвесь расейскі народ, што ён абяцае да 1 сакавіка 1954 г. стварыць 100 дывізіяў РОА і пад. і пад.

Гімлер і ягонае акружэньне паверылі заманлівым абяцанкам ген. Уласава і зрабілі стаўку на яго і на «адзіную недзялімую» Расею. Гэтую пастанову Гімлер прыняў, зусім ня маючы ніякага ўяўленьня ні аб палажэньні ў СССР, ні аб палажэньні й складзе дабраахвотніцкіх войскаў, што змагаліся на баку Немцаў, проста ўва ўсім на слова паверыў свайму акружэньню, што рэкамандавала яму ген. Уласава. Аднак самому акружэньню гэтага было дастаткова, каб усё прадставіць у распараджэньне Уласава, да якога пачалі заганяць і афіцыяльна прызнаныя перад тым самымі Немцамі нацыянальныя дабраахвотніцкія часьці і камітэты. Асабліва стараўся пры гэтым і сам шэф тайнай паліцыі Кальтэнбрунэр, роўна як і эсэсаўскія фюрэры Олендорф, Крогер і інш., грозячы «нацыяналам» концлягерамі й турмамі...

Уласаўскія й салідарыстаўскія кадры, створаныя ў лягеры Дабендорф блізка Бэрліна, і выпушчаныя цяпер з концлягераў верхаводы НТС павялі шалёную траўлю перадусім супраць усіх «нацыяналаў», наклейваючы на ўсіх ярлык расейскага «сэпаратыста», праклямуючы сваёй мэтаю «адзіную й вялікую Расею, называючы «сэпаратыстых» зрадніцкамі і прадажнікамі, павёшы перадусім змаганьне не супраць бальшавізму, а супраць «нацыяналаў» і супраць нацыянальна-вызвольных рухаў нерасейскіх народаў.

Ня гледзячы на ўсе пагрозы гэстапаўцаў, ня гледзячы на ўсе спробы нямецкіх колаў загнаць нерасейскія народы і іх прадстаўнікоў у уласаўскую акцыю, ім гэта не ўдалося. Пры абвешчаньні свайго маніфэсту ў Празе пад апекай кіруючых эсэсаўцаў ген. Уласаву прыйшлося замест запраўдных прадстаўнікоў нерасейскіх народаў узяць жалю годных крэатуры, што бадзяліся па вуліцах, якіх ён сам назваў «ценямі целяў».

Стаўка кіраўнікоў гітлераўскай Нямеччыны на адзіную й вялікую Расею і ген. Уласава аказалася яўна няўдольнай. Дармовыя былі ўсе высілкі гітлераўцаў, каб паставіць на ногі ўласаўшчыну, прыцягнуць да яе сымпатыі, завярбаваць у яе людзей. Замест 100 дывізіяў на 1 сакавіка 1945 г., абяцаных А. Уласавам Гімлеру, ён ледзьве склеіў адну дывізію і тую не з уласаўцаў, а із астаткаў разьбітай пад гор. Бэльфор (Францыя) 30-ай дывізіі, зложанай зь Беларусаў, ды брыгады Камінскага. Другая дывізія знаходзілася ў стадыі фармаваньня. Усяго ген. Уласаў фактычна меў у сваім распараджэньні 22.000 жаўнераў, а гэтую колькасьць разьдзьмуханая уласаўская прапаганда намагалася прадставіць у мільёнах. Зразумелая дзеля гэтага заўсёдныя імкненьні ген. Уласава падпарадкаваць сабе 250 тысяч дасканала дзеючых казацкіх вайсковых задзіночаньняў, падпарадкаваць сабе «Украінське Візвольнэ Військo», легіёны каўкаскіх народаў, туркестанскія й турскія часьці.

Пры гэтым першая дывізія ген. Уласава, пасланая на фронт і ня выканаўшая там свайго першага баявога заданьня, самавольна пакідае фронт і накіроўваецца ў Чэхію. Там 28. 4. 1945 г. камандзір гэтае дывізіі ген. Бунічэнка падпісвае дагавор з чэскімі камуністычнымі паўстанцамі, якім абяцае помач пры вызваленьні Прагі ад Немцаў. І, у запраўды уласаўцы падтрымлівалі паўстаньне ў Празе, выступіўшы там і на заклік савецкага маршала Конева супраць учарашніх сваіх апякуноў эсэсаўцаў, напаўшы на іх з заду. 7. 5. 1945 г. Прага была вызваленая ад Немцаў. У горадзе былі вывешаны разам з савецкім сьцягам і андрэеўскі, а разам з партрэтамі Сталіна, Маркса і Леніна партрэт ген. Уласава...

Але гэта ня было залічана ў лік заслугаў і ня прынесла Уласаву памілаваньня з боку Саветаў. На наступны дзень учарайшыя «пераможнікі» — уласаўцы павінны былі пакідаць Прагу, каб разам з разьбітымі імі эсэсаўскімі часьцямі ратавацца на Захадзе...

Так бясслаўна й сорамна закончылася стаўка Немцаў не на «нацыяналаў» і на «распадзельнікаў Расеі», а на вялікадзяржаўных адзінанедзялімцаў. Яна павінна быць павучальнай лекцыяй для многіх і ў будучыні...

В. Г. Глазкоў



### ГАДАВЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ РАБОТНІКАЎ У ФРАНЦЫІ

14 лютага сёлета адбыўся ў Парыжы агульны гадавы зьезд Беларускай Сэкцыі Хрысьціянскага Работніцкага Сындыкату ў Францыі. На зьезьдзе была выбраная новая ўправа Сэкцыі на бягучы год у складзе сп. сп.: М. Наўмовіч — старшыня, В. Міцкевіч — заступнік старшыні і скарбнік, М. Лысуха — сакратар, Дубяйкоўскі і Дударэвіч — сябры ўправы. У Наглядную Раду ўвайшлі: а. Л. Гарошка, Я. Касяк і М. Абрамчык.

Зьезд прайшоў у прыемнай сяброўскай атмасфэры. Быў шырака абгавораны плян працы на будучыню, справа сьвяткаваньня сёлетняй гадавіны 25 Сакавіка, а таксама прыгатаваньня да ўдзелу ў зьезьдзе работнікаў паняволеных бальшавізмам народаў, які адбудзецца 30 красавіка — 2 травеня сёлета ў Страсбургу.

М. Н.